ПРАЛЕТАРЫІ УСІХ КРАІН, ЯДНАЙЦЕСЯ!

# Літаратура і мастацтва

Год выдання 39-ы
№ 56 (2517)
ПЯТНІЦА 23 кастрычніка 1970 г.

ОРГАН МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ І ПРАЎЛЕННЯ САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БССР

ВЫХОДЗІЦЬ РАЗ У ТЫДЗЕНЬ НА ШАСНАЦЦАЦІ СТАРОНКАХ.

Цана 8 кап.



Ціха шапацць, схаваўшыся сярод вербаў, невялічкая рачулка... Сонца ўжо зайшло, і стаіць над зямлёй бэзавы, трапяткі надвячорак...

Ціха-ціха навокал...

І толькі недзе далёка празрыста і крыху журботна пяе жалейка. Немудрагелісты спеў яе у дзіўосным суладдзі з бэзавым вечарам, з шапаценнем ракі і цішынёй. Аб чым яна, гэтая песня невядомага музыкі! Што за словы ў ёй! Заплюшчы вочы — перанясешся ў легенду, у казку, у цуд...

Плача жалейка, сумуе, скардзіцца...

Бэзавы туман паволі цямнее, робіцца гусцейшым, амаль фіялетавым...

Сцямнела.

Змянілася і песня. Зараз яна крыху трывожная, з нечаканымі пераходамі, усхваляваная, быццам прадчувае нейкія незвычайныя, чароўныя падзеі, якімі багатая цёплая летняя ноч, быццам расказвае пра цудоўную папараць-кветку, якая прыносіць шчасце таму, хто знойдзе яе ўночы на Івана Купалу. Хто не забаіцца таямнічасці лесу, яго начнога чарадзейства!

Колькі песень складзена на беларускай зямлі пра гэтую цудоўную кветку, колькі паданняў, колькі казак!..

А ці знайшоў яе хто-небудзь! Ці трымаў у руках!

А можа і няма яе, гэтай чароўнай кветкі!

Можа і няма!..

Але колькі другіх цудоўных кветак цвіце на нашай зямлі... Вось шыпшына — кветка-агонь, кветка-радасць, кветка-каханне. За ёй затапіў зямлю сваім водарам чабор, а там праглянуўся праз золата спелага жыта васілёк — і вось ужо і ўзгоркі, і ўзлессі, і ўсе бясконцыя краявіды быццам увабралі ў сябе нястрымны блакіт неба — зацвіў лён. Лёнянок — радасць і багацце беларускай зямлі.

І не плача ўжо жалейка, не скардзіцца — звонкагалосым жаўранкам б'ецца яе песня недзе высока-высока, пад самым купалам крышталёвых нябёсаў!

Беларускай песні, беларускай легендзе, беларускім цудакветкам прысвяціў свой трыпціх «Кветка шчасця», які экспануецца на рэспубліканскай выстаўцы «50 гадоў ЛКСМБ», малады мастак М. Стома. У гэтым трыпціху і ціхі бэзавы вечар, і шапаценне рачулкі, і песня жаўранка над блакітнай кіпенню квітнеючага льну.





# ЗАКЛІКІ ЦК КПСС

## ДА 53-й ГАДАВІНЫ ВЯЛІКАЙ КАСТРЫЧНІЦКАЙ САЦЫЯЛІСТЫЧНАЙ РЭВАЛЮЦЫІ

1. Няхай жыве 53-я гадавіна Вялікай Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі!

2. Няхай жыве Вялікі Кастрычнік, які адкрыў новую эпоху сусветнай гісторыі — эпоху рэвалюцыйнага абнаўлення свету, пераходу ад капіталізму да сацыялізма!

3. Няхай жыве марксізм-ленінізм — вечна жывое інтэрнацыянальнае вучэнне, сцяг барацьбы працоўных усіх краін супраць імперыялізму, за перамогу сацыялізма і камунізма!

4. Няхай жыве ў вяках імя і справа Уладзіміра Ільіча Леніна — геніяльнага прадаўжальніка рэвалюцыйнага вучэння Маркса і Энгельса, заснавальніка Камуністычнай партыі, кіраўніка першай ў свеце пераможнай пралетарскай рэвалюцыі, стваральніка сацыялістычнай дзяржавы, правадыра міжнароднага рабочага класа!

5. Слава вялікаму савецкаму народу — доблеснаму будаўніку камунізма, мужнаму барацьбіту за перамогу ідэй марксізма-ленінізма, за мір ва ўсім свеце!

6. Няхай жыве гераічны рабочы клас Краіны Саветаў — вядучая стваральная сіла ў барацьбе за пабудову камунізма ў СССР!

7. Няхай жыве гераічнае калгаснае сялянства — актыўны будаўнік камунізма!

8. Няхай жыве савецкая народная інтэлігенцыя — актыўны будаўнік камуністычнага грамадства!

9. Няхай мацнее і працвітае саюз рабочага класа і калгаснага сялянства, сацыяльна-палітычнае і ідэйнае адзінства грамадства — непарушная аснова Савецкай сацыялістычнай дзяржавы!

10. Няхай вечна жыве і працвітае брацкая дружба народаў СССР — вялікая заваёва ленінскай нацыянальнай палітыкі КПСС!

11. Няхай жыве Камуністычная партыя Савецкага Саюза — баявы авангард рабочага класа, усіх працоўных, палітычны правадыр і арганізатар савецкага народа ў барацьбе за камунізм!

12. Працоўныя Савецкага Саюза! Змагайцеся за ажыццяўленне неўміручых запаветаў Леніна! Цясней згуртоўвайцеся пад ленінскім сцягам Камуністычнай партыі! Няхай жыве вялікае непарушнае яднанне партыі і народа!

13. Няхай жывуць Саветы дэпутатаў працоўных — сапраўды народныя органы ўлады!

Няхай развіваецца і мацнее савецкая сацыялістычная дэмакратыя, расце актыўнасць працоўных у кіраванні справамі грамадства і дзяржавы!

14. Няхай жывуць савецкія прафсаюзы — школа кіравання і гаспадарання, школа камунізма!

15. Няхай жыве Ленінскі камсамол — верны памочнік і рэзерв Камуністычнай партыі, перадавы атрад маладых будаўнікоў камунізма!

16. Няхай жывуць савецкія жанчыны — актыўныя будаўнікі камуністычнага грамадства!

17. Савецкія воіны! Дабівайцеся новых поспехаў ў баявой і палітычнай падрыхтоўцы, будзьце пільныя і заўсёды гатовыя адбіць любую агрэсію!

Няхай жывуць гераічныя Узброеныя Сілы Савецкага Саюза!

18. Працоўныя Савецкага Саюза! Дастойна сустрэнем XXIV з'езд Камуністычнай партыі! Вышэй сцяг перадз'ездаўскага сацыялістычнага спаборніцтва за датэрміновае выкананне гадавога і пяцігадовага плана́ў!

19. Слава ўдарнікам і калектывам камуністычнай працы! Слава перадавікам і наватарам вытворчасці!

20. Рабочыя сацыялістычнай прамысловасці! Паўней выкарыстоўвайце наяўныя магчымасці павелічэння выпуску прамысловай прадукцыі і тавараў для насельніцтва!

21. Работнікі народнай гаспадаркі! Усямерна павышайце эфектыўнасць вытворчасці! Змагайцеся за выкананне планавых заданняў з найменшымі затратамі працоўных і матэрыяльных рэсурсаў, строга захоўвайце рэжым эканоміі!

22. Працоўныя Савецкага Саюза! Няўхільна павышайце прадукцыйнасць працы! Хутчэй укараняйце ў вытворчасць дасягненні навукі і тэхнікі! Ажыццяўляйце комплексную механізацыю і аўтаматызацыю! Настойліва авалодвайце навукова-тэхнічнымі і эканамічнымі ведамі!

23. Работнікі народнай гаспадаркі! Лепш выкарыстоўвайце наяўную тэхніку! Усямерна паляпшайце якасць прадукцыі, зніжайце яе сабекошт!

24. Рабочыя і работніцы, інжынеры і тэхнікі! Вышэй тэмпы і якасць капітальнага будаўніцтва! Змагайцеся за падзешаўленне будаўніцтва і паскарэнне ўводу ў дзеянне новых вытворчых магутнасцей, жылых дамоў і аб'ектаў культурна-бытавога прызначэння!

25. Працоўныя Савецкага Саюза! Змагайцеся за камуністычныя адносіны да працы! Рашуча ўмацоўвайце дысцыпліну і арганізаванасць, свята беражыце і памнажайце грамадскую ўласнасць!

26. Працоўныя Савецкага Саюза! Настойліва змагайцеся за ажыццяўленне рашэнняў ліпеньскага Пленума ЦК КПСС, за далейшы ўздым сельскай гаспадаркі, усямернае ўмацаванне яе матэрыяльна-тэхнічнай базы!

27. Работнікі сельскай, лясной і воднай гаспадаркі! Больш актыўна ажыццяўляйце праграму інтэнсіфікацыі вытворчасці, электрыфікацыі і комплекснай механізацыі сельскай гаспадаркі, хімізацыі і меліярацыі зямель!

Усямерна паляпшайце выкарыстанне зямлі, водных і лясных багаццяў, сельскагаспадарчай тэхнікі і ўгнаенняў!

28. Калгаснікі, работнікі саўгасаў, спецыялісты сельскай гаспадаркі! Павышайце культуру земляробства! Змагайцеся за далейшае павелічэнне вытворчасці збожжа, баваўны, цукровых буракоў, бульбы, гародніны і іншых сельскагаспадарчых прадуктаў!

29. Працаўнікі сельскай гаспадаркі! Дабівайцеся павышэння прадуктыўнасці і павелічэння пагалоўя жывёлы і птушкі! Больш атрымлівайце прадуктаў жывёлагадоўлі, зніжайце іх сабекошт!

30. Работнікі народнай гаспадаркі! Павышайце культуру вытворчасці, шырэй укараняйце навуковую арганізацыю працы і перадавы вопыт! Змагайцеся за поўнае выкарыстанне кожнай рабочай мінуты!

31. Савецкія вучоныя, канструктары, інжынеры і тэхнікі! Змагайцеся за далейшае развіццё навукі і тэхнікі, хутчэйшае ўкараненне іх дасягненняў у народную гаспадарку, умацоўвайце сувязь навукі з вытворчасцю!

32. Работнікі гандлю і камунальна-бытавой гаспадаркі! Павышайце культуру абслугоўвання савецкіх людзей, паўней і лепш задавальняйце іх запатрабаванні!

33. Дзеячы літаратуры і мастацтва, работнікі культуры! Высока нясіце сцяг партыйнасці савецкага народнага мастацтва, аддавайце ўсе сілы і здольнасці выхаванню будаўнікоў камунізма!

34. Работнікі асветы! Удасканальвайце народную адукацыю і камуністычнае выхаванне падрастаючага пакалення!

35. Работнікі аховы здароўя і фізічнай культуры! Паляпшайце медыцынскае абслугоўванне насельніцтва! Актыўна ўкараняйце фізічную культуру ў штодзённае жыццё савецкіх людзей!

36. Камуністы! Паказвайце прыклад у працы і грамадскім жыцці! Будзьце актыўнымі арганізатарамі і выхавацелямі мас у барацьбе за высокую эфектыўнасць вытворчасці, больш поўнае выкарыстанне рэзерваў, эканомію і ашчаднасць у народнай гаспадарцы!

37. Юнакі і дзяўчаты! Настойліва авалодвайце марксісцка-ленінскай тэорыяй, вышынямі навукі, тэхнікі і культуры! Будзьце вернымі ленінскім запаветам, актыўнымі будаўнікамі камунізма!

38. Піянеры і школьнікі! Горача любіце Савецкую Радзіму, добра вучыцеся, паважайце працу! Рыхтуйцеся стаць актыўнымі барацьбітамі за справу Леніна, за камунізм!

39. Брацкае прывітанне камуністычным і рабочым партыям — баявому марксісцка-ленінскаму авангарду рабочага класа і ўсіх працоўных, стойкім барацьбітам супраць імперыялізму, за мір, дэмакратыю, нацыянальную незалежнасць і сацыялізм!

40. Няхай мацнее адзінства і згуртаванасць камуністаў усяго свету на аснове марксізма-ленінізма і пралетарскага інтэрнацыяналізму!

41. Брацкае прывітанне народам сацыялістычных краін! Няхай развіваецца і мацнее сусветная сацыялістычная сістэма — гістарычная заваёва міжнароднага рабочага класа, рашаючая сіла ў антыімперыялістычнай барацьбе!

42. Працоўныя сацыялістычных краін! Змагайцеся за ўмацаванне дружбы і адзінства, за далейшае развіццё брацкіх узаемаадносін! Будзьце пільныя да падкопаў ворагаў сацыялізма!

Вышэй сцяг пралетарскага інтэрнацыяналізму!

43. Працоўныя ўсіх краін! Больш актыўна змагайцеся супраць агрэсіўнай палітыкі імперыялізму, за мір, дэмакратыю, нацыянальную незалежнасць і сацыялізм!

44. Брацкае прывітанне рабочаму класу капіталістычных краін, які самаадданна змагаецца супраць манапалістычнага капіталу, за палітычныя і сацыяльна-эканамічныя правы працоўных, за трыумф сацыялістычных ідэалаў!

45. Гарачае прывітанне народам, якія скінулі аковы каланіяльнага прыгнёту, змагаюцца супраць імперыялізму і неакаланіялізму, за ўмацаванне незалежнасці, за прагрэсіўны шлях сацыяльнага развіцця!

46. Гарачае прывітанне народам каланіяльных і залежных краін, якія змагаюцца супраць імперыялізму і расізму, за свабоду і нацыянальную незалежнасць!

47. Народы сацыялістычных краін, пралетарыі і ўсе дэмакратычныя сілы ў краінах капіталу, народы, якія вызваліліся, і прыгнечаныя народы, аб'ядноўвайцеся ў агульнай барацьбе супраць імперыялізму, за мір, нацыянальную незалежнасць, дэмакратыю і сацыялізм!

48. Брацкае прывітанне пакутуючым у турмах і фашысцкіх засценках мужным барацьбітам супраць капіталістычнага і каланіяльнага рабства, за свабоду народаў, за сацыялізм!

Свабоду вязням капіталу!

49. Брацкае прывітанне народам В'етнама, Лаоса і Камбоджы, якія вядуць гераічную барацьбу супраць інтэрвенцыі амерыканскага імперыялізму, за свабоду і незалежнасць сваіх краін!

50. Народы свету! Рашуча патрабуйце ад Злучаных Штатаў Амерыкі спынення варварскай вайны ў Індакітаі, поўнага і безагаворачнага вываду з Паўднёвага В'етнама, Лаоса і Камбоджы ўсіх войск ЗША і іх сатэлітаў!

Рукі прэч ад Індакітая!

51. Народы свету! Патрабуйце спынення агрэсіі Ізраіля на Блізкім Усходзе, вываду ізраільскіх войск з акупіраваных арабскіх тэрыторый!

52. Народы арабскіх краін! Умацоўвайце адзінства і згуртаванасць у барацьбе супраць імперыялістычнай агрэсіі!

Няхай мацнее і развіваецца салідарнасць савецкага народа з народамі арабскіх краін!

53. Народы еўрапейскіх краін! Больш актыўна выступайце за пératварэнне Еўропы ў кантынент трывалага міру і мірнага супрацоўніцтва дзяржаў! Будзьце пільныя да падкопаў сіл рэакцыі і рэваншызму — ворагаў разрадкі напружанасці!

54. Народы свету! Патрабуйце забароны ўсіх відаў ядзернай, хімічнай і бактэрыялагічнай зброі! Змагайцеся за ўсеагульнае і поўнае раззбраенне, за ўмацаванне міжнароднай бяспекі!

55. Няхай жыве ленінская знешняя палітыка Савецкага Саюза — палітыка міру і дружбы народаў, згуртавання ўсіх сіл, якія змагаюцца супраць імперыялізму, рэакцыі і вайны!

56. Няхай жыве Саюз Савецкіх Сацыялістычных Рэспублік — цвярдыня дружбы і шчасця народаў нашай краіны, надзейная апора міру і прагрэсу!

57. Пад сцягам марксізма-ленінізма, пад кіраўніцтвам Камуністычнай партыі — наперад па ленінскім шляху да перамогі камунізма!

**ЦЭНТРАЛЬНЫ КАМІТЭТ КАМУНІСТЫЧНАЙ ПАРТЫІ САВЕЦКАГА САЮЗА.**

## ВІНШУЕМ З УЗНАГАРОДАЙ!

*За заслугі ў развіцці савецкага музычнага мастацтва і ў сувязі з шасцідзесяцігоддзем з дня нараджэння заслужаны дзеяч мастацтваў Беларускай ССР, дацэнт Беларускай дзяржаўнай кансерваторыі імя А. В. Луначарскага Падкавыраў Пётр Пятровіч узнагароджан Ганаровай граматай Вярхоўнага Савета Беларускай ССР.*

### *НОВЫ НАРОДНЫ*

За вялікую плённую работу па прапагандзе музычнага мастацтва, эстэтычным выхаванні школьнікаў і моладзі калегія Міністэрства культуры БССР прысвоіла званне **народнага** ансамблю песні і танца Магілёўскага Дома піянераў і школьнікаў.

## ГАЛОЎНАЕ—ТВОРЧАЯ ІНДЫВІДУАЛЬНАСЦЬ

*З ПАСЯДЖЭННЯ СЕКЦЫІ КРЫТЫКІ САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БССР*

У МІНУЛУЮ пятніцу адбылося чарговае пасяджэнне секцыі крытыкі і літаратуразнаўства Саюза пісьменнікаў Беларусі. На парадак дня пасяджэння было вынесена абмеркаванне творчасці трох маладых крытыкаў—Варлена Бечыка, Серафіма Андраюка і Васіля Жураўлёва.

З разглядам артыкулаў і рэцэнзій С. Андраюка выступіў на пасяджэнні Уладзімір Юрэвіч, які адзначыў высокую тэарэтычную і прафесіянальную падрыхтоўку маладога крытыка. Яго крытычныя і літаратуразнаўчыя працы, падкрэсліў прамоўца, вызначаюцца дзвюмя добрымі рысамі — добразычлівасцю да аўтараў аналізуемых твораў і прынцыповасцю крытычных ацэнак і высноў.

У апошнія гады ўвагу літаратурнай і чытацкай грамадскасці прыцягнулі да сябе крытычныя выступленні В. Бечыка. Яго рэцэнзіі і літаратуразнаўчыя артыкулы вызначаюцца высокім эстэтычным і маральна-этычным узроўнем.

— Пэўна, усе мы памятаем артыкулы Варлена Бечыка пра Аркадзя Куляшова, Уладзіміра Хадыку і асабліва пра Аляксея Пысіна,—гаварыў на пасяджэнні Рыгор Бярозкін, які рабіў агляд творчасці маладога крытыка. — Артыкулы гэтыя — красамоўнае сведчанне таго, што Бечык—крытык надзвычай тонкі, цікавы. Сярод іншых яго вылучае зайздросная здольнасць прайсці поруч з паэтам, прасачыць тайну нараджэння паэзіі, уменне знайсці ключ да паэта—чалавека і мастака.

Станоўчую ацэнку рабоце В. Жураўлёва ў галіне крытыкі і літаратуразнаўства, асабліва ў распрацоўцы праблем сучаснага беларускага апавядання, даў Віктар Каваленка, адзначыўшы, што крытычная культура даследчыка расце з году ў год.

У абмеркаванні творчасці С. Андраюка, В. Бечыка і В. Жураўлёва прынялі ўдзел Алесь Адамовіч, Мікола Арочка, Павел Дзюбайла, Дзмітрый Бугаёў, Адам Мальдзіс, Юліян Пшыркоў, Іван Шамякін, якія падкрэслілі, што кожны з трох маладых крытыкаў—досыць яркая творчая індывідуальнасць, што іх праца ўносіць прыкметны ўклад у даследаванне роднай літаратуры.



Барыс САЧАНКА

# «ЦІ ВЕДАЛІ МЫ ДА ЯГО...»

## ДА 100-годдзя З ДНЯ НАРАДЖЭННЯ І. А. БУНІНА

ПІСЬМЕННІЦКАЯ планіда цяперашняга класіка вялікай рускай літаратуры Івана Буніна не была шчаслівая...

Пачаўшы пісаць намнога раней за М. Горкага, Л. Андрэева, А. Купрына, ён доўгі час, аж да надрукавання «тузовых» (выраз Горкага) твораў—«Вёскі», «Сухадолу», «Пана з Сан-Францыска», аставаўся, калі і не малавядомым, абыдзеным увагай пісьменнікам-рэалістам (пра яго ўспаміналі ў аглядах крытыкі, яму прысуджалі Пушкінскія прэміі, надалі нават у 1909 годзе званне ганаровага акадэміка Імператарскай Акадэміі навук), дык і не такім папулярным, акружаным ледзь не легендарнай славай, якімі былі яго знакамітыя равеснікі.

Кастрычніцкая рэвалюцыя, якой Іван Бунін не толькі не зразумеў, але і спалохаўся, і зусім аддаліла пісьменніка на доўгія гады ад чытачоў у Расіі. Апынуўшыся на чужыне сярод ворагаў савецкай улады, Бунін пісаў не заўсёды тое, што варта было яго таленту. Мо таму Нобелеўская прэмія—ёю ўвянчала пісьменніка шведская Акадэмія ў 1933 годзе—мала што зрабіла для папулярнасці Буніна і на яго радзіме, і за мяжою.

Бунін мог быць папулярны толькі ў Расіі, толькі Расія магла зразумець і па-належнаму ацаніць яго як мастака слова.

Але Расія была тады ад Буніна далёка...

Робіцца да болю шкада гэтага выдатнага працаўніка пяра, калі чытаеш успаміны сучаснікаў пра апошні, парыжскі перыяд яго жыцця, азмрочаны не адной шчымлівай тугой па Бацькаўшчыне, але і неверагоднай, жахлівай беднасцю, нястачамі самага неабходнага...

Старасць не даравала яшчэ нікому памылак маладосці. Азлобленасць — дрэнны дарадца мастаку...

І ўсё ж, нягледзячы ні на якія перапады лёсу, сёння ўсё лепшае, што стварыў пісьменнік Іван Бунін, вернута Расіі. Бунін—класік, яго імя стаіць у шэрагу такіх геніяў рускага народа, як Пушкін, Гогаль, Дастаеўскі, Ляскоў, Леў Талстой, Чэхаў... І гэта невыпадкова. Бунін не толькі прадоўжыў традыцыі вялікіх рускіх класікаў, традыцыі жыватворнага рускага рэалізму, але ў сім-тым пайшоў і далей за сваіх папярэднікаў. У гэтым няма нічога незвычайнага, а тым больш дзіўнага. Кожны вялікі талент, засвоіўшы зробленае да яго, ідзе сваёй дарогай пошукаў, якая і прыводзіць да новых адкрыццяў, новых поспехаў. Да Буніна ў рускай літаратуры многага не было, а калі і было, то не такім, якім яно стала пасля яго...

Бунін перш за ўсё цікавы як мастак, мастак самабытны, непаўторны, вельмі нацыянальны, рускі. Яго быццам не закранулі ніякія модныя плыні і школы— а іх пры жыцці Буніна ў рускай, ды і не толькі рускай літаратуры!—было уга колькі! Але гэта толькі так здаецца. Бунін жыў у сваім часе і развіваўся разам з гэтым часам. Сам пісьменнік аднойчы, чытаючы «У пошуках страчанага часу» М. Пруста, спалохаўся: «у «Жыцці Арсеньева»... многа мясцін зусім прустаўскіх!» Уплыў пэўных школ і плыняў адчуваецца і ў вершах, хаця сам пісьменнік неаднаразова гэта і адмаўляў.

Вядомасць, славу ў рускай і ў сусветнай літаратуры Буніну прынеслі не раман і не вершы, хаця і раман, і вершы выдатныя, а, як гэта ні дзіўна, творы малых жанраў — апавяданні, аповесці. Незвычайнае развіццё гэтых жанраў у рускай прозе менавіта і падае на канец XIX і пачатак XX стагоддзяў і звязана з імёнамі Чэхава, Буніна, Горкага, Купрына, Андрэева, Шмялёва, Гусева-Арэнбургскага, Рэмізава, Зайцава. У тым, што цэлая кагорта найталенавіцейшых пісьменнікаў звярнулася да невялікіх форм самапаказу, ёсць штосьці як бы нават заканамернае. Пасля таго небывалага ўздыму рускага рамана, што быў выкліканы творчымі дасягненнямі Тургенева, Ганчарова, Дастаеўскага, Льва Талстога, пісаць раманы стала нялёгка. Патрэбен быў час, каб агледзецца, «пераварыць» тое, што стварылі вялікія раманісты. Гэта адчуваў кожны, хто паважаў сябе, паважаў літаратуру. Здарыўся цуд—вырас раман, які пакарыў не толькі Расію, але і ўвесь свет. Калі і трэба было пісаць яшчэ раманы, то па-новаму. «А як?» Пра гэта думалі і Чэхаў, і Горкі, і Купрын, і Андрэеў, і Бунін. Тыя ж, у каго было шмат прэтэнзіі і ані не было таленту—Бабарыкін, Патапенка, Вярбіцкая і ім падобныя—рабілі выгляд, што нічога асаблівага ў рускай літаратуры не здарылася і штогод «потчевали» чытачоў новымі і новымі «раманамі». Не бяда, што іх раманаў ніхто ніколі не перачытваў, што яны паміралі ў той жа дзень, калі нараджаліся. Трэба было запоўніць вакуум, і падзёншчыкі яго запаўнялі...

І Л. Андрэеў, і М. Горкі, і сам І. Бунін паспрабавалі свае сілы і ў жанры рамана. Але іхнія раманы зусім іншыя, яны і падобныя і не падобныя на тыя раманы, што напісалі славутыя папярэднікі. Каб пераканацца ў гэтым, дастаткова прачытаць раман у двух частках «Сашка Жыгулёў» Л. Андрэева, «Фаму Гардзеева», «Маці», «Справу Артамонавых» ці «Жыццё Кліма Самгіна» М. Горкага, «Жыццё Арсеньева» І. Буніна...

Але раманы пісьменнікі-рэалісты напісалі пасля...

Тады ж, на стыку двух стагоддзяў, асабліва імпэтна, з маладым задзёрам, як бы наперагонкі, пісаліся апавяданні, аповесці. Івана Буніна, якога М. Горкі па таленту раўняў з А. Чэхавым, вылучала ад усіх яго равеснікаў пільная ўвага да слова, да музыкі, гучання радка. Бунін умеў як ніхто ствараць адной-дзвюмя фразамі настрой, намаляваць аб'ёмна і гэтак «зримо» карціну, што міжволі ўзнікала ўражанне, што ты ідзеш разам з пісьменнікам і бачыш, перажываеш тое, што бачыць, перажывае яго герой. Ні адной фальшывай ноты, ні аднай непатрэбнай дэталі, ні аднаго лішняга слова! Коратка і як ёмка! Тая элегічнасць, што была ўласціва большасці ранніх твораў Буніна, падкрэслівала сум чалавека па радасці і шчасці, якіх так не хапала ў «турме народаў» царскай Расіі. Калі ж Бунін пачынаў апісваць прыроду—тут яму наогул не было роўных. «Так ведаць і любіць прыроду, як умее Бунін—мала хто ўмее», — захапляўся Блок. «Яго стэпавае, вясковае вока такое хапатлівае, вострае і пільнае, што мы ўсе перад ім — як сляпыя». — пісаў скупы на пахвалу малады К. Чукоўскі. І гэта праўда. Прачытайце верш-паэму «Лістапад» (дарэчы, вельмі па-майстэрску перакладзеную нядаўна на беларускую мову М. Лужаніным)—і вы ўбачыце, што да Буніна ў рускай літаратуры ніхто не пісаў так дакладна і разам з тым маляўніча пейзаж, не адчуваў у ім гэтулькі прыроднай сілы, жыцця—фарбаў, пахаў, гукаў... А славутыя «Антонаўскія яблыкі», апісанне прыроды—зімы і лета, восені і вясны, лесу і поля, горада і вёскі, сонечных і пахмурых дзён, вечароў і раніц, гор і раўнін, навальніц і ціхіх абложных дожджыкаў, поўначы і поўдня Расіі, Каўказа і Чарнамор'я —у «Цёмных алеях», «Міцным каханні», «Жыцці Арсеньева», амаль ва ўсіх вялікіх і маленькіх, усяго на некалькі радкоў апавяданнях і вершах. І ўсюды якая зайздросная шматфарбнасць і якая эканомнасць! Бунін бачыў у прыродзе тое, чаго да яго не бачылі, хоць быццам бы і глядзелі на тое самае, на што глядзеў Бунін. «Ці ведалі мы да яго, што белыя коні ў святле месяца зялёныя, а вочы ў іх фіялетавыя, а дым—бэзавы, а чарназём—сіні, а пожня—лімонная? Там, дзе мы бачылі толькі сінюю фарбу, ён бачыць дзесяткі паўтонаў і адценняў...»—пісаў той самы малады К. Чукоўскі. Метафарычнасць, экспрэсія, якімі Бунін карыстаўся з незвычайным уменнем, толькі ўзмацнялі ўражанне. «Белый дым» завірухі, «нежный холод девичьих губ», «золотая слеза звезды», «подвенечная белизна яблонь, груш, черемух», «роскошный запах жасмина», «резкая, ветвистая молния», «Сырая свежесть леса», «злобная буря», «ветвей плакучих кружева»... Як усяго гэтага не хапае не такой ужо і беднай сённяшняй нашай літаратуры!

У празаічных творах Буніна многа паэзіі. Іх можна перачытваць бясконца і кожны раз адкрываць для сябе ўсё новае і новае... Да Буніна, здаецца, ніхто не пісаў так прачула, праўдзіва пра смерць, каханне, запусценне і распад дваранскіх гнёздаў...

Цэлыя даследаванні можна рабіць і пра мову бунінскіх твораў. Яна быццам бы вельмі звычайная, простая, руская, але як свеціцца, пераліваецца ўсімі колерамі і адценнямі кожнае дакладна знойдзенае слова, вядомае і ў той жа час невядомае, заўсёды новае, як цячэ, бруіцца гэтая мова пад пяром у майстра—«от звенящей медью торжественности до прозрачности льющейся родниковой воды, от размеренной чеканности до интонаций удивительной мягкости, от легкого напева до медленных раскатов грома» (К. Паустоўскі.)

У апавяданнях і аповесцях Івана Буніна нічога асаблівага не здараецца. У іх няма займальнасці, загадкавасці сітуацый, выключнасці тыпаў і характараў. Але ў звычайным, будзённым Бунін умеў бачыць незвычайнае, тое, міма чаго мы праходзім і чаго не заўважаем. А як, з якой сілай перадае пісьменнік чалавечыя адчуванні, найтанчэйшыя зрухі душы! Калі каханне, дык гэта ўжо сапраўднае каханне; сапраўдныя ў Буніна і боль, туга, радасць, рэўнасць...

Як мастак Бунін заўсёды быў рэалістам і маляваў жыццё такім, якім яно было, якім ён яго бачыў. Праўда і толькі праўда—вось творчы дэвіз, які пранёс пісьменнік праз увесь свой не такі ўжо і кароткі век.

Бунін ніколі не канчаў сваіх твораў, а толькі расставаўся з імі на некаторы час, аддаючы ў друк, каб потым зноў з імі сустрэцца, зноў працаваць, правіць. У мяне на кніжнай паліцы стаіць першае поўнае выданне збору твораў І. Буніна (дадатак да часопіса «Нива», 1915 г.). Я часта параўноўваю варыянты твораў, што надрукаваны ў гэтым выданні, з тымі варыянтамі, якія змешчаны ў апошнім, «гихловском», дзевяцітомніку. Якая гэта вялікая школа майстэрства! І карысна яна, мне думаецца, не толькі маладому пісьменніку, але і сталаму, таму, хто выдаў ужо збор сваіх твораў ці збіраецца ў бліжэйшыя гады выдаць. Вучыцца, кажуць, ніколі нікому не шкодзіць...

Іван Бунін напісаў многа выдатных кніг. Яны вытрымалі выпрабаванне часам, і сёння, у сотую гадавіну іх аўтара, такія ж свежыя, росныя, якімі былі і ў той дзень, калі нарадзіліся, упершыню ўбачылі свет. Свежыя, росныя, як маладая вясновая лістота, як белапенная квецень саду.

Прозе і паэзіі гэтага выдатнага майстра суджана доўга жыць і хваляваць людскія сэрцы, бо ў ёй ёсць тое, дзякуючы чаму і жывуць творы мастацкай літаратуры, — дасканаласць формы і вечная, неўміручая праўда жыцця.

---

У ЗНАМЯНАЛЬНЫ ГОД ленінскага юбілею распачата падрыхтоўка да такой важнай падзеі ў жыцці савецкага народа, як XXIV з'езд КПСС. Актывізавалася творчая дзейнасць савецкіх людзей ва ўсіх сферах нашага жыцця, у тым ліку і ў выяўленчым мастацтве. Надзённая практыка савецкага мастацтва ставіць важныя пытанні перад мастацтвазнаўствам і крытыкай. Сучаснаму становішчу на гэтым важным напрамку нашай ідэалагічнай дзейнасці і быў прысвечаны праведзены ў Мінску 15—16 кастрычніка пленум Камісіі па мастацтвазнаўстве, крытыцы і друку пры праўленні Саюза мастакоў СССР. У яго рабоце прынялі ўдзел мастацтвазнаўцы і крытыкі шэрагу саюзных рэспублік, у тым ліку і Беларусі.

Правядзенне такога аўтарытэтнага пленума менавіта ў Беларусі, падкрэсліў старшыня праўлення Саюза мастакоў БССР В. Грамыка, адыграе станоўчую ролю ў далейшым развіцці і беларускага мастацтвазнаўства і крытыкі, якія, на жаль, яшчэ недастаткова глыбока асэнсоўваюць інтэнсіўныя працэсы сучаснага выяўленчага мастацтва.

У ДАКЛАДЗЕ на пленуме сакратара праўлення Саюза мастакоў СССР, старшыні Камісіі па мастацтвазнаўстве, крытыцы і друку пры праўленні Саюза мастакоў СССР, галоўнага рэдактара часопіса «Искусство» У. Зіменкі «Савецкае мастацтвазнаўства і крытыка на сучасным этапе» адзначана інтэнсіўнасць умацавання пазіцый

### З ПЛЕНУМА КАМІСІІ ПА МАСТАЦТВАЗНАЎСТВЕ, КРЫТЫЦЫ І ДРУКУ ПРЫ ПРАЎЛЕННІ САЮЗА МАСТАКОЎ СССР

савецкага марксісцка-ленінскага мастацтвазнаўства і крытыкі, іх выхад на міжнародную арэну. У слове савецкага мастацтвазнаўцы і крытыка гучыць праўда гісторыі. Яно прасякнута клопатам аб сапраўдным эстэтычным прагрэсе чалавецтва насуперак марным намаганням буржуазных эстэтыкаў, ангажыраваных капіталам, якія распаўсюджваюць у эстэтыцы ману, абараняюць элітарнае мастацтва, навязваюць народу атрутную духоўную спажыву натуралізму і крайніх форм мадэрнізму.

У лепшых работах савецкіх мастацтвазнаўцаў і крытыкаў апошняга часу, адзначае дакладчык, павышаецца майстэрства аналізу ідэйнага зместу твораў і іх мастацкай формы ў рэальным дыялектычным адзінстве, вывучаюцца заканамернасці гістарычнага руху мастацтва.

Гаворачы пра пашырэнне геаграфіі нашага мастацтвазнаўства, У. Зіменка зазначае, што пакуль абсалютная большасць мастацтвазнаўчых і крытычных сіл гуртуецца вакол сталічных і абласных цэнтраў. У некаторых жа рэспубліках, краях і абласцях краіны іх непамерна мала. Так, на ўсю Кіргізію—два мастацтвазнаўцы. У Беларусі, магутнай па эканоміцы і культуры рэспубліцы, секцыя мастацтвазнаўцаў — 13 чалавек, а актыўна выступаюць у друку яшчэ менш. У такіх фактах адбіваецца пэўная недаацэнка важнасці работы мастацтвазнаўцаў і крытыкаў. Не пераадолена яшчэ недаацэнка іх дзейнасці сярод пэўнай часткі саміх мастакоў, што часам стварае перашкоды сапраўды навуковай ацэнцы мастацкай практыкі, тармозіць справу эстэтычнай прапаганды.

— Мастацтва належыць народу, і народ—вышэйшы цаніцель усяго сапраўды прыгожага,—падкрэслівае дакладчык. — Мы рашуча адстойваем гэта важнейшае палажэнне марксісцка-ленінскай эстэтыкі і рашуча адкідаем усялякія тэндэнцыі эстэцтвуючых снобаў стаць вышэй народа. Але трэба цвёрда сказаць і пра тое, што нікому не ўдасца марксісцка-ленінскую крытыку супрацьставіць народу.

Мы часам абураемся рэзкімі заўвагамі асобных мала падрыхтаваных гледачоў. Але, па-першае, да іх трэба ўважліва прыслухацца, бо меркаванне нават эстэтычна неадукаванага чалавека, калі ён надораны здаровым сэнсам і мае жыццёвы вопыт, бывае на дзіва трапным і глыбокім. А, па-другое, хіба не абавязак наш—быць настойлівымі прапагандыстамі эстэтычнай культуры, развенчваць эстэтычныя памылкі, калі яны з'яўляюцца, і выхоўваць неабходную сціпласць, удумлівасць пры акце зносін з творам сапраўднага мастацтва!

Дзейнасць гісторыка і тэарэтыка мастацтва, крытыка, прапагандыста эстэтычнай культуры не менш вартая ўвагі, чым праца мастака. І гэта адзначана ў новым Статуце Саюза мастакоў, падкрэслена ў прывітанні ЦК КПСС Трэцяму ўсесаюзнаму з'езду мастакоў.

Дэталёва спыняючыся на праблемах мастацкай крытыкі, дакладчык гаворыць, што на гэтым важным участку нашага ідэалагічнага фронту ёсць не толь-

# ПАЗІЦЫІ ЯСНЫЯ, ТРЫВАЛЫЯ

кі поспехі, але і досыць сур'ёзныя цяжкасці. Ад сістэматычнай крытычнай работы адыходзяць многія мастацтвазнаўцы не толькі старэйшага пакалення, што ў нейкай меры натуральна, але і сярэдняга, што ненармальна. Слабы прыток у крытыку маладых сіл. Не выпрацаваны формы ўдзелу Саюза мастакоў у выхаванні маладых мастацтвазнаўцаў і асабліва крытыкаў. Нельга прызнаць нармальным, што сёй-той з мастакоў і крытыкаў патурае вузкагрупавым тэндэнцыям, ліберальна ставіцца да неаб'ектыўнасці ў ацэнцы сваіх і чужых работ, пэўных працэсаў нашай мастацкай практыкі.

Сучасны мастацкі працэс—складаны. Інтэнсіўна з'яўляюцца новыя мастацкія ідэі. Нараджаюцца, правяраюцца, асвойваюцца ці адкідаюцца тыя ці іншыя мастацкія тэндэнцыі раней не асвоеныя і не асэнсаваныя ідэйныя і мастацкія каштоўнасці. Адсюль—тыя павышаныя патрабаванні, якія прад'яўляе чалавеку, ідэолагу асабліва, наш час.

Не так даўно асобныя ўплывовыя крытыкі адвяргалі творы Т. Салахава, Э. Ілтнера, Б. Прарокава, Д. Жылінскага, братоў Смоліных, М. Савіцкага, Т. Нарыманбекава многіх іншых выдатных мастакоў на той толькі падставе, што іх мастацтва было нязвыклае, рэзала традыцыйна настроенае вока. У палемічным запале ім прыпісваліся іншы раз нават ідэалагічныя зрывы. Але калі прагрэсіўнае і таленавітае атрымала пераканаўчую перамогу не пры дапамозе, а насуперак намаганням гэтых крытыкаў, дык як цяпер павінны пачуваць сябе яны, публічна распісаўшыся ў эстэтычнай слепаце?

Нярэдка кажуць, быццам меркаванні крытыка не могуць не быць суб'ектыўныя, яго небесстароннасць—зразумелая і даравальная, імпрэсіянізм яго ведаў—у духу спецыфікі яго прафесіі, ён павінен прыцягнуць, завабіць гледача і слухача, а мастака натхніць або астудзіць накшталт халоднага душа. Але ўсё гэта негрунтоўныя думкі, ілюзіі. Мы павінны прызнаць, што крытыка — гэта навука. Яе спецыфіка не ва ўяўным суб'ектывізме, а ў тым, што крытык не можа бачыць з'яву гэтак жа поўна, наколькі гэта магчыма праз пэўны час для гісторыка. Крытык не можа агледзець усю гістарычную тэндэнцыю. Ён прысутнічае пры яе нараджэнні. Ён як бы прарок новага. Тым больш ён павінен быць глыбокі і прынцыповы. Не падыходзіць да твораў мастацтва з загадзя дадзенай меркай, з прыдуманай схемай, а зразумець задуму, пранікнуць у пафас творчасці таго або іншага мастака, няхай нават нярэдка асабіста не цалкам прыймальнага для крытыка—гэтаму вучаць лепшыя майстры-крытыкі мінулага і сучаснасці. Марксісцка-ленінская метадалогія, якая забяспечвае сапраўдную навуковасць у вывучэнні любога аб'екта, не стасуецца з прадузятасцю загадзя прадвызначанай схемы.

Дакладчык закранае праблемы аналізу твораў у цеснай узаемасувязі іх зместу і формы, структуры мастацкага вобраза, нацыянальнай своеасаблівасці мастака. Усё гэта немагчыма вывучаць дасканала, калі мастацтвазнаўчы, крытычны аналіз будзе канстатуючым, павярхоўным, раз'ядноўваць груба змест і форму.

Даследаванне гісторыка - мастацкіх заканамернасцей з пазіцый марксізма-ленінізма дае магчымасць крытыку прагназіраваць развіццё той або іншай з'явы, а гэта цяпер вельмі важна. Бо крытыка павінна быць аўтарытэтнай памочніцай у справе партыйнага і дзяржаўнага кіравання мастацтвам. Важна своечасова заўважаць адхіленні балансу зместу і формы, відаў і жанраў мастацтва, дакладна вызначаць кірунак руху відаў і жанраў. Для гэтага крытык павінен ведаць жыццё, прынамсі, не горш за мастака. Своечасова даследаваць тую або іншую праблему і зрабіць пэўныя вывады—лепшы спосаб прадухіліць распаўсюджанне і ўкараненне памылковых эстэтычных поглядаў, эстэтычнай маны, якую ў вялізнай колькасці і нярэдка ў вельмі прывабным аздабленні фабрыкуюць нашы ідэйныя праціўнікі за мяжой.

Падвяргаючы крытыцы шэраг навуковападобных канцэпцый сучаснага буржуазнага мастацтвазнаўства, дакладчык гаворыць пра неабходнасць аператыўна, без спазнення аналізаваць іх сутнасць, каб прадухіляць іх шкодны ўплыў. Ён дэталёва спыняецца на новай моднай тэорыі аб эстэтычнай усеагульнасці дызайна, паводле якой жывапіс, скульптура, графіка—толькі частка дызайна. Гэтая тэорыя вядзе да дэідэалагізацыі мастацтва. І крыўдна, што часам нашы тэарэтыкі не толькі не крытыкуюць гэтую тэорыю, але і міжвольна спрыяюць яе прапагандзе.

Шырока закрануты ў дакладзе праблемы павышэння якасці матэрыялаў аб мастацтве ў друку, канстатавана неабходнасць прадпрымаць крокі па далейшым развіцці спецыяльнага мастацтвазнаўчага друку.

— Але гэта адзін бок праблемы, — падкрэслівае У. Зіменка. — Мне хочацца заклікаць усіх больш умела, больш паспяхова скарыстоўваць тыя рэальныя магчымасці друку, якія існуюць. Яшчэ далёка не цалкам вычарпаны рэальныя магчымасці актывізацыі нашай прэсы. Гаворачы пра некаторыя пралікі і памылкі нашай спецыяльнай мастацкай прэсы трэба бачыць, што не ва ўсім і не заўсёды вінаваты адпаведныя рэдакцыі. Наша прэса — як бы люстра становішча спраў у самой крытыцы. Рэдакцыі не могуць пісаць за аўтараў іх артыкулы.

Нам трэба гаварыць пра ўсё па-таварыску. Партыйная прынцыповасць—не ў гучных крыках і грубых эпітэтах, а ў дакладнай ацэнцы з'яў. І калі даказана, што з'ява адмоўная, трэба знаходзіць спосабы паправіць справу, вярнуць таго, хто памыліўся, у строй актыўных працаўнікоў. Нам неабходна вучыцца дыскутаваць, абмяркоўваць усебакова тую або іншую прапанову, вывад, не фанабэрачыся быццам бы знойдзенай «абсалютнай ісцінай».

— Абвастрэнне ідэалагічнай барацьбы, — сказаў у заключэнне дакладчык,— неабходнасць падцягвання і ўдасканальвання ўсіх участкаў нашай ідэалагічнай работы патрабуюць ад нас удумлівай, аб'ектыўнай ацэнкі дасягнутага, а таксама глыбокага аналізу з'яў, народжаных аб'ектыўным ходам развіцця жыцця, вопытам будаўніцтва камунізма. Увесь калектыў савецкіх мастацтвазнаўцаў і крытыкаў павінен працаваць дружна і актыўна, у адзінстве на творчай аснове марксісцка-ленінскай эстэтыкі, такой жывой і магутнай у вывучэнні і сцвярджэнні рэалістычнага рэвалюцыйнага мастацтва.

Даклад аб рабоце бюро Камісіі па мастацтвазнаўстве, крытыцы і друку пры праўленні Саюза мастакоў СССР за 1969—1970 гг. зрабіла К. Краўчанка (Масква).

Затым даклады абмяркоўваліся. Адначасова прадстаўнікі Саюза мастакоў шэрагу братніх рэспублік інфармавалі аб становішчы мастацтвазнаўства і крытыкі на месцах. Была заслухана таксама інфармацыя В. Лапшына (Масква) аб дзейнасці выдавецтва «Советский художник». У ходзе спрэчак шмат увагі аддадзена праблемам беларускага мастацтвазнаўства і крытыкі.

ВЕЛЬМІ сур'ёзную прафесіянальную праблему закрануў Б. Бернштэйн (Эстонія). У нас ёсць крытыка, сказаў ён, і гэтая крытыка з надзвычайнай смеласцю, іншы раз празмернай, абмяркоўвае і вырашае многія праблемы мастацтва, праблемы на стыку мастацтвазнаўства, крытыкі і эстэтыкі, але разам з тым нічога не робіць дзеля самапазнання. На жаль, у нас проста няма тэорыі крытыкі. Ёсць агульная метадалогія савецкага мастацтва, а спецыяльная канкрэтная тэорыя мастацтвазнаўчай крытыкі, можна сказаць, зусім не распрацавана. А між тым тэорыя крытыкі з дапамогай сучаснага лагічнага апарата павінна даследаваць такія праблемы, як статус крытыкі ў структуры мастацкага жыцця, нават у структуры грамадскага жыцця, характар функцыяніравання крытыкі і крытыка, аб'ект і метады крытычнага даследавання, аналізу і г. д.

Аб месцы крытыкаў у сучасным мастацкім працэсе гаварыў В. Талстой (Масква). Крытыка—неад'емная частка мастацкага працэсу. Сам мастацкі працэс, як і ўсякі творчы працэс, нельга ўявіць без унутранага кантролю, самаўсведамлення. Творчы працэс—сінтэз эмацыянальнага і рацыянальнага пачаткаў. Вось у гэтым агульным, адзіным працэсе крытыка субліміруе рацыянальную, самастойную частку гэтага адзінага творчага працэсу, таму і з'яўляецца неад'емнай ад яго. Ёсць спецыфічныя адрозненні паміж працай гісторыка-мастацтвазнаўцы і «ўчотчыка» бягучага мастацкага жыцця. Але адрозненні не прынцыповыя. Абавязковая для абодвух—наяўнасць дакладнай навуковай метадалогіі, дакладнай навуковай канцэпцыі. Але ў рабоце крытыка асноўны метадалагічны бок яго дзейнасці схаваны ад чытача, накшталт падводнай часткі айсберга. І чым гэтая падводная частка трывалей, тым пераканальней тое, што відаць на паверхні.

— Цяпер наша мастацтвазнаўства і крытыка перажываюць вельмі складаны перыяд, — сказаў А. Іваноў (Масква).— І складанасць гэтая тлумачыцца, перш за ўсё, фарміраваннем больш шырокіх пазіцый у адносінах да мастацтва, у адносінах да разумення рэалізму, дыялектыкі развіцця мастацтва. Гэтага патрабуе сам гістарычны працэс развіцця нашага мастацтва. З многімі ранейшымі крытэрыямі, якія ў пэўнай меры застылі, нельга было многае вытлумачыць у мастацтве, даць перспектыву яго развіцця. У шэрагу выпадкаў мастацтвазнаўства аказвалася не на ўзроўні мастацкага працэсу, які ўскладніўся.

Закранаючы праблемы павышэння майстэрства нашай крытыкі, А. Іваноў нагадвае той перыяд у развіцці мастацтвазнаўства, калі панаваў сацыялагічны метад. Гэты метад адверглі, хаця пазней прыйшлі да думкі, што цалкам адвяргаць яго — няправільна, бо галоўны пафас у гэтым метадзе — здольнасць развіваць грамадска-сацыяльна значнае. Але менавіта недаацэнка індывідуальных момантаў, суб'ектыўнага пачатку ў мастацтве і стала адной з прычын крызісу сацыялагічнай школы. З пераходам жа да больш шырокіх пазіцый сталі сцвярджаць: усё добра, што выказвае асобу мастака. Французскі філосаф Гарадзі заявіў: калі падыходзіць да мастацтва Сезана, нам важна не тое, што ён адлюстроўвае, а важна яго прысутнасць у тым, што ён адлюстроўвае, важны толькі гэты суб'ектыўны момант. Вось, так сказаць, адна крайнасць. І нічога новага ў гэтай крайнасці няма, бо такое ўжо выказвалася задоўга да Гарадзі не кім іншым, як Дзягілевым, калі ён тлумачыў, што толькі асоба мастака апраўдвае мастацтва і, маўляў, больш нічога цікавага ў мастацтве няма. Другая ж крайнасць, сацыялагічная, як бы нівеліравала асобу мастака. Але, мабыць, мы шукаем у мастацтве і адлюстраванне аб'ектыўнага развіцця чалавецтва, і адлюстраванне яго ў форме індывідуальнай творчасці. Таму неабходна гарманічна спалучаць абодва пачаткі. Мы яшчэ не навучыліся гэтаму як след.

Прычыны некаторага крызісу ў нашай крытыцы А. Кантар (Масква) бачыць у надзвычайнай складанасці развіцця сучаснага мастацтва. Яно развіваецца бурна, складана. І тлумачыць гэты працэс — няпроста. Тут здольны памагчы толькі калектыўныя намаганні, абмеркаванне, дыскусіі, спецыяльныя даследаванні. У мастацтве — свая унутраная эвалюцыя. Яна адлюстроўвае эвалюцыю грамадства. Унутраныя законы развіцця мастацтва хоць і няпроста зразумець, але зразумець трэба. І пагарджаць імі нельга.

— Несумненна, цяпер наша мастацтва —перад многімі нечаканасцямі, працягвае прамоўца.—Пра гэта, між іншым, прымушае задумацца і рэспубліканская выстаўка ў Дзяржаўным мастацкім музеі БССР, прысвечаная 50-годдзю ЛКСМБ. Адчуваецца, што яшчэ не ўсе працэсы развіцця беларускага мастацтва выяўлены. Здавалася б, усё ўсталявалася, мастацтва выступае ў пэўнай завершанай форме, яно ўпэўнена ў сабе і рухаецца наперад. Але ў гэтым руху ёсць унутраная асаблівасць, якая дазваляе меркаваць, што заўтра будзе не так, як сёння. І для крытыкі надзвычай важна гэтыя магчымасці мастацтва прадбачыць, каб даць замацавацца парасткам новага, развіцца ім у патрэбным напрамку. Зразумела, тут слова — за калектывам крытыкаў, бо адзін крытык такія адказныя задачы вырашаць не здольны.

А. Сапацынскі (Масква) засяродзіў увагу на арганізацыйных непаладках у рабоце выдавецтваў і рэдакцый, якія адбіваюцца на якасці мастацтвазнаўчай і крытычнай прадукцыі.

Увогуле на пленуме арганізацыйным пытанням надавалася вялікая ўвага. Гаварылася і пра неабходнасць заключаць па лініі творчых саюзаў гарантаваныя дагаворы з мастацтвазнаўцамі на спецыяльныя даследаванні, і пра арганізацыю спецыялізаваных часопісаў і выдавецтваў, і пра неабходнасць рэферыравання айчыннай і замежнай мастацтвазнаўчай літаратуры ў цэнтралізаваным парадку, і пра ўдасканаленне сувязей паміж мастацтвазнаўцамі і крытыкамі братніх рэспублік, пра больш дасканалую арганізацыю семінараў крытыкаў і мастацтвазнаўцаў, і пра выдавецкія справы, і пра многае іншае. У гэтай шчырай гаворцы прынялі ўдзел М. Наджафаў (Азербайджан), І. Патапаў (Якуція), М. Ліўшыц (Малдавія), В. Юдзічаў (РСФСР), М. Іваноў (Латвія), І. Умбрысас (Літва).

ЯК ПА ТЭАРЭТЫЧНЫХ, так і па арганізацыйных пытаннях на пленуме выступалі беларускія крытыкі і мастацтвазнаўцы.

Так, А. Сурскі адзначыў, што падчас мастацтвазнаўцы замест таго, каб аналізаваць рэальнае жыццё, рэальнае мастацтва ў рэальных абставінах, канструіруюць пэўную ідэальную мадэль паводле сваіх уяўленняў аб тым, якім павінна быць мастацтва і якім павінен быць мастак, а затым накладаюць гэтую загадзя сканструяваную мадэль на рэальную рэчаіснасць. Такі падыход да ацэнкі мастацкіх з'яў мала прыносіць карысці. Выносячы ацэнку, разважаючы аб мастацкай з'яве, неабходна аглядацца на пройдзены мастацтвам шлях, супастаўляць сённяшняе з тым, што было ўчора, і ў сувязі з гэтым прагназіраваць заўтрашні дзень мастацтва.

Нам неабходны, адзначыў А. Сурскі, больш прадуктыўныя творчыя сувязі адзін з адным і ў сваёй рэспубліцы, і з калегамі з братніх рэспублік. Засяродзіўшы ўвагу на становішчы ў беларускім мастацтвазнаўстве і крытыцы, прамоўца гаворыць, што нярэдка замест таго, каб аналізаваць з'яву мастацтва, пранікаць у задуму, у свет мастака, у артыкулах пачынаецца вольная інтэрпрэтацыя, пераказ таго, што адбываецца ў карціне. І становішча такое тлумачыцца не толькі тым, што «няма сярод нас Бялінскага», але і ўмовамі работы мастацтвазнаўцаў і крытыкаў, а таксама акалічнасцямі іх падрыхтоўкі. Наш тэатральна-мастацкі інстытут абмежаваўся пакуль вячэрнімі выпускамі мастацтвазнаўцаў. Рэспубліка чамусьці не скарыстоўвае магчымасці браніравання месц у мастацтвазнаўчых аспірантурах вышэйшых навучальных устаноў краіны. А між тым мастацтвазнаўцаў нам яўна не хапае. У нашых выдавецтвах, напрыклад, рэдагаваннем мастацтвазнаўчай літаратуры займаюцца людзі зусім іншых спецыяльнасцей.

— Не ўсе мастацтвазнаўцы, якія ёсць у Беларусі, дастаткова актыўна выступаюць у друку,—падкрэсліў Л. Дробаў. — Зразумела, гэта не віна рэдакцый—трэба, каб самі мастацтвазнаўцы актывізаваліся. Мы не на поўную меру скарыстоўваем трыбуну, якую маем.

Закрануўшы праблемы выдавецкай дзейнасці ў рэспубліцы, прамоўца адзначыў, што іншы раз складваюцца акалічнасці, пры якіх і недасканалая кніга атрымлівае дарогу ў свет. Так здарылася, напрыклад, з даследаваннем М. Кацара па гісторыі дарэвалюцыйнага мастацтва Беларусі, у якім шмат памылак. І ў памылках гэтых далёка не заўсёды вінавата рэдактура.

А. Сурскі, Л. Дробаў, М. Гуціеў, Б. Крэпак, Ул. Бойка гаварылі пра неабходнасць мець у рэспубліцы часопіс, прысвечаны пытанням выяўленчага мастацтва, спецыялізаванае выдавецтва, якое займалася б выданнем мастацтвазнаўчай літаратуры. Ул. Бойка, напрыклад, мяркуе, што правобразам будучага часопіса магло б быць наладжанае, хаця б на ратапрынце пры Саюзе мастакоў БССР, выданне спецыяльнага перыядычнага мастацтвазнаўчага і крытычнага зборніка.

Слушную прапанову аб каардынацыі навуковай дзейнасці паміж інстытутамі мастацтвазнаўства рэспублік краіны выказаў М. Гуціеў. Гэта дало б магчымасць больш паспяхова і больш паслядоўна вырашаць многія надзённыя для мастацтвазнаўства і крытыкі праблемы.

Пра дылетантызм у крытыцы гаварыў Б. Крэпак. Ён слушна адзначаў, што з'яўленне ў друку павярхоўных, недасканалых матэрыялаў аб мастацтве наносіць шкоду чытачу, ствараючы ў яго няправільнае ўяўленне аб рэальных каштоўнасцях мастацтва.

Аб майстэрстве крытыка ў газеце, на радыё, тэлебачанні гаварыў А. Белавусаў.

На пленуме выступілі таксама галоўны мастак Дзяржаўнага камітэта Савета міністраў БССР па друку М. Ганчароў, які праінфармаваў аб захадах па паляпшэнні справы выдання мастацтвазнаўчай літаратуры і бібліёграф Дзяржаўнай бібліятэкі БССР імя У. І. Леніна В. Дышыневіч.

АБМЕН думкамі, які адбыўся на пленуме, акрэсліў сучаснае становішча ў савецкім мастацтвазнаўстве і крытыцы, вызначыў надзённыя задачы, паспяховае вырашэнне якіх будзе важкім укладам савецкіх мастацтвазнаўцаў і крытыкаў, у тым ліку і беларускіх, у нашу ідэалагічную барацьбу супраць буржуазнай і рэвізіяніскай ідэалогіі ў галіне мастацтва ў імя духоўнага ўзбагачэння будаўнікоў камунізма, якім служыць мастацтва сацыялістычнага рэалізму

## Паэтычная паверка

Таццяна ДЗМІТРУСЕВА



### РОДНАЕ ПОЛЕ

Роднае поле —
матчына ласка,
Вольнаму — воля,
дзяцінству—казка.
Роднае поле.
Вусны засмяглі.
Росы на доле —
радасць за смагу.
Роднае поле —
золата хлеба,
Ветру уволю.
Што яшчэ трэба?.

●

Сэрца маё гарачае,
Згарыш ад жыцця няйначай.
Хаваць цябе не бяруся —
Памерці ціха баюся.
Згары, маё сэрца шчырае,
У самым трывожным выраі.
Вось толькі песняй апошняю
Сагрэй чалавека кожнага!

### ДАРОГА

*ТРЫПЦІХ*

1.

Рассцілала мама ручнікі.
Ільняныя, доўгія, крамяныя.
На траве, ля самае ракі,
Крылы іх трымцелі адбяляныя.
А ва мне, няўрымслівай малой,
Выспявала дзіўнае жаданне:
Праімчацца хуткаю стралой
Басанож па чыстых, як світанне.

2.

Горам задыміла бацькава дарога,
Вочы засцяліла болем, як слязой,
Спавівала нанач баявой трывогай
І гасіла свечы схаладзелых зор.
Ці ад гора шэрым, ці ад пылу
брудным
Ручніком бясконцым выслаўся
твой шлях.
Сквапная старая — чорная
прыблуда —
Крочыла па следу, вісла на плячах.
Ад смаляных сенцаў да варот
дзівосных
Ты адолеў, тата, гэткі пераход,
Праз зацятасць зімаў, праз
крывавасць вёснаў
Ты прайшоў дарогу—пяць
ваенных год.

3.

Новыя сцяжыны. Растрасае вецер
Пасталелых клёнаў залацісты дым.

*НА ТЭМЫ МАРАЛІ*

М. ЗАМСКІ

# СТРЭЛ УНАЧЫ

ЗАВЯЗКА гэтай сумнай, я б нават сказаў, трагічнай гісторыі даволі банальная. У суботу 18 ліпеня г. г. начальнік механазборачнага цэха Мінскага завода ацяпляльных прыбораў Л. Міхальчук зайшоў да дырэктара А. Сафронава і папрасіў машыну на выхадны дзень (у тую суботу завод працаваў).

— Куды збіраецеся? — пацікавіўся Аляксей Аляксеевіч.

— Ды вось майстар Ваня Сухадолец падбівае ехаць па маліну, кажа, у іх на Лагойшчыне дужа добрая маліна.

— Хто яшчэ паедзе?

— Мой механік Іван Паланевіч.

— А мяне возьмеце?

— З вялікай прыемнасцю.

— Адштампавана, — сказаў дырэктар. — Сёння вечарам паедзем на маёй «Волзе». Толькі па жонку заеду...

Давайце на хвілінку ўявім сабе цёплы ліпеньскі вечар, шэрую стужку Лагойскай шашы, якую цесна абступіў лес, і «Волгу», што імчыць па гэтым зялёным калідоры. У адчыненыя вокны ўрываецца пах нагрэтай за дзень хвоі, на тварах людзей, што сядзяць у машыне, задаволеныя ўсмешкі.

Ах, нам, гараджанам, патрэбна, як паветра, гэтая хоць рэдкая блізкасць з прыродай. Каб адпачыць ад гарадской мітусні, супакоіць нервы, падыхаць на поўныя грудзі. Мабыць, яшчэ большую патрэбу ва ўсім гэтым адчувалі нашы героі. Завод ацяпляльных прыбораў не тое прадпрыемства, дзе вока лашчыць чысціня. Можа мне падалося з непрывычкі, але на заводскім двары, я ўжо не кажу пра цэхі, не прадыхнуць ад смуроду. Адным словам, правільна зрабілі таварышы, што надумалі вырвацца на прыроду...

Толькі тут хачу я звярнуць увагу чытача на адну акалічнасць. Помніце, некалькі гадоў назад у нас была разгорнута шумная кампанія супраць выкарыстання службовага аўтатранспарту ў асабістых мэтах. У выхадныя дні на дарогах выстаўляліся міліцэйскія заслоны, якія правяралі, куды і навошта ідзе кожная машына са службовым нумарам. Неўзабаве спецыяльна прынятай пастановай аўтамашыны прадпрыемстваў, ведамстваў, устаноў, за рэдкім выключэннем, былі перададзены аўтабазам, каб цэнтралізаваць усю сістэму перавозак. Патрэбен табе транспарт —даеш заяўку і згодна са спушчаным лімітам бярэш. Не думаю, што гэта шкодзіла жыццю прадпрыемства, а вось жыццю тагосяго з начальства... На лімітнай «Волзе» надта не разгонішся, асабліва па грыбы ці на рыбалку...

Не адменена гэтая пастанова і па сённяшні дзень, але, як трапна заўважыў адзін мой знаёмы, некаторыя пастановы з часам выгараюць, як паркаль пад сонцам.

Праўдамі і няпраўдамі кіраўнікі некаторых прадпрыемстваў вярнулі сабе легкавыя машыны, дабіліся шафёрскіх адзінак у штатных раскладах. Хаця я ведаю адну ўстанову, дзе начальніка возіць шафёр, які па штатным раскладзе праходзіць эканамістам... Паўгода назад набыў у нейкай аўтагаспадарцы спісаную «Волгу» і А. Сафронаў. На заводзе яе адрамантавалі, і вось дырэктар ездзіць па горадзе (а цяпер, як мы ўбачылі, не толькі па горадзе) на персанальнай машыне.

Мо хто-небудзь папракне аўтара — маўляў, навошта быць такім педантам, падумаеш, паехаў чалавек на службовай машыне па асабістай патрэбе. Ну, згараць там 30—40 літраў бензіну, літр масла — капейкі... Мо і капейкі. Але такія капейкі ў маштабе краіны вырастаюць у немалыя рублі.

Ды справа не толькі ў гэтым. Такое, калі можна так сказаць, паўлегальнае адступленне ад закона стварае прэцэдэнт. Чаму яму можна, а мне нельга? Яно вядзе, я б сказаў, да маральнай раскаванасці, калі дакладныя раней граніцы дазволенага і недазволенага пачынаюць набываць эфемерны, чыста ўмоўны характар.

...Гадзін у 10 вечара мінчане прыехалі ў вёску Глубачаны, што на самай мяжы Лагойскага і Вілейскага раёнаў. Сустрэлі гасцей добра. Прыйшлі два браты Івана Сухадольца—Міхаіл і Уладзімір, дзядзька Канстанцін Зубрыцкі. За вячэрай, гаворачы мовай міліцэйскага пратакола, распілі літр гарэлкі. Пасля прыйшоў яшчэ адзін сваяк — Максім Нагаеў з бутэлькай віна. Зноў пасядзелі. Мабыць, ад таго, што закуска была не вельмі смачная, нехта ўздыхнуў — вось бы рыбкі...

— Ёсць тут у вас рэчка, каб налавіць? — пацікавіўся шафёр дырэктара І. Жданаў.

— Рачулка ёсць, ды там не ловіцца, — адказаў Нагаеў. — Затое блізка саўгас разводзіць рыбу ў сажалках, яе там навалам... Во такія карпы, — растапырыў ён рукі.

— Мабыць, сажалкі ахоўваюцца?

— Ахоўваюцца, ды ў мяне вартаўнікі знаёмыя.

Была ўжо дванаццатая гадзіна ночы, але ўсё роўна паехалі — «ноччу рыба ля самага берагу ходзіць». Захапілі некалькі вудаў. Адзін з братоў Сухадольца, мясцовы шафёр, прапанаваў падвезці кампанію да сажалкі на малакавозе. Паселі хто ў кабіну, хто на бочку (зараз самі здзіўляюцца, як не пазвальваліся). Да сажалак пад'ехалі метраў за дзвесце. Далей па дамбе пайшлі пешкі...

Пакінем пакуль што ў густой ліпеньскай ночы аматараў чужой рыбы. Зазірнём, фігуральна кажучы, па другі бок начной заслоны. Але спачатку —невялікі экскурс у мінулае.

У 1928 годзе лукавецкаму памешчыку пану Бароўскаму прыйшла ідэя на месцы лесу, які не даваў амаль ніякага прыбытку, зрабіць сажалкі і разводзіць у іх рыбу. Пан быў хвацкі гаспадар, і неўзабаве наваколле абудзілі звон піл, стук сякер. Нанятая памешчыкам арцель валіла лес. Расчысцілі гектараў 120, і на гэтай плошчы выкапалі каля дзесятка сажалак, насыпалі дамбы, зрабілі сістэму шлюзаў для спуску вады (дарэчы, усё рабілася ўручную). Мясцовыя старажылы расказваюць, што ў асобныя гады Бароўскі прадаваў да 50 тон рыбы.

У 1939 годзе, пасля ўстанаўлення на Вілейшчыне Савецкай улады, на былых панскіх сажалках аганізаваўся рыбгас. Быў гэты рыбгас і пасля вайны. Некалькі гадоў назад сажалкі былі перададзены мясцоваму саўгасу «Лукавец». Ці то ад змены гаспадароў, ці то яшчэ па якой прычыне (саўгасу гэтыя сажалкі з боку прыпёку, ён мае мяса-малочны напрамак), але сажалкі прыйшлі ў запусценне — на дзевяць дзесятых зараслі чаротам, там-сям пабурыліся дамбы. Адным словам, зараз сажалкі даюць усяго 7—10 тон рыбы. На гэтай рыбе саўгас не толькі не зарабляе, а траціць.

— Наша рыбная гаспадарка была б рэнтабельная, — растлумачыў мне галоўны бухгалтар Іосіф Казіміравіч Маліноўскі, — каб давала хаця 25—30 тон рыбы. Але для гэтага патрэбна рэканструкцыя ўсёй сістэмы сажалак, на якую ў нас няма грошай і адпаведнай тэхнікі. І яшчэ патрэбна эфектыўная ахова ад браканьераў.

Так, браканьеры тут сапраўдны біч. Невядома, як было пры пане Бароўскім, але зараз сажалкі ў форменнай асадзе. Прыязджаюць з Мінска, з Маладзечна, з Вілейкі, Лагойска, лезуць з навакольных вёсак. Здабыча ўсім забяспечана, бо нават вудай за гадзіну тут можна выцягнуць не менш 5—8 кілаграмаў рыбы.

А вартаўнікоў усяго трое: Іосіф Сініца, Яўген Паўлюкевіч і Кузьма Клочка. Зрэшты, гэта нават не вартаўнікі. Яны вырошчваюць малькоў, зарыбляюць, кормяць рыбу (за сезон ёй скормліваецца да 30 тон канцэнтратаў), робяць адлоў. Адным словам, на іх плячах уся работа, і немалая работа, звязаная з вырошчваннем рыбы.

Асабліва апетыт разгараецца ў браканьераў у ліпені, калі рыба бярэ мала не на пусты кручок. У гэтыя дні вартаўнікі ледзь не кожную ноч адпраўляюцца ў дазор.

У ноч з 18 на 19 ліпеня пайшлі васьмёра. Рыбакі папрасілі дапамагчы рабочых мясцовай паляводчай брыгады, бо траім было не справіцца: абысці ўсе сажалкі — не адзін кіламетр. Праўда, можна раздзяліцца — кожнаму па ўчастку. Але па адным хадзіць боязна, можна і на нож напароцца, было і такое...

Раздзяліліся на тры групы, за кожнай замацавалі маршрут.

І. Сініца, Я. Паўлюкевіч і К. Клочка падаліся да сажалкі «Глыбокая». Падыходзячы, пачулі прыглушаныя галасы. Рассунулі кусты і ўбачылі ў начной цемры, як восем постацей рухаюцца да вады.

Восем на трох... Сініца шапнуў, што пабяжыць за астатнімі. Хвілін праз дваццаць прыйшла падмога. Паўлюкевіч і Клочка, у якіх былі стрэльбы, пайшлі наперад, астатнія за імі. Клочка, наблізіўшыся да браканьераў, якія закінулі вуды, стрэліў угару і закрычаў: «Тут лавіць забаронена, хадземце ў кантору!»

Далейшыя падзеі разгортваліся з маланкавай хуткасцю. Вось вытрымка з пратаколу допыту І. Жданава: «Пасля стрэлу Міхаіл Сухадолец кінуўся ў ногі вартаўніку. Калі той падаў, грымнуў яшчэ адзін стрэл, і тут я пачуў гучны енк: «Нага, нага!» У гэты момант два ці тры чалавекі з нашых адбіралі стрэльбу ў другога вартаўніка. Потым мы ўсе пачалі біцца з вартаўнікамі...»

Поле бойкі засталося за сябрамі Жданава. Былі і трафеі—дзве стрэльбы. У адным не пашанцавала — аказаўся цяжка паранены ў нагу Іван Паланевіч. На тым жа малакавозе яго даставілі ў Глубачаны, а адтуль уся кампанія адправілася на «Волзе» ў Мінск, дзе паранены быў гаспіталізаваны. Жыццё яму выратавалі, а вось нагу захаваць не ўдалося...

Што было далей? Супраць вартаўніка К. Клочкі ўзбуджана крымінальная справа. За перавышэнне неабходнай абароны.

Што і казаць, вялікая бяда, вялікае няшчасце напаткалі І. Паланевіча, маладога яшчэ чалавека, дарэчы, майстра спорту, трэнера зборнай рэспублікі па водна-маторным спорце. Але будзем глядзець праўдзе ў вочы. Вінаваты ў гэтай трагедыі сам пацярпеўшы і яго сябры. Вартаўнікі ж выконвалі свой службовы абавязак, яны сцераглі дзяржаўнае дабро.

Я доўга гутарыў з Кузьмом Клочкам. Ён стары ўжо чалавек, каля рыбы па гэтых сажалках ходзіць дваццаць тры гады. Кіраўнікі саўгаса характарызавалі яго з самага лепшага боку— сумленны, працавіты. Такія ж характарыстыкі і ў іншых рабочых, якім давялося ў тую ноч сцерагчы рыбу.

Зараз злашчасныя «рыбаловы» патрабуюць «крыві» К. Клочкі. Л. Міхальчук, завадатар той паездкі па маліну, заявіў мне катэгарычна:

— Не супакоімся, пакуль вартаўнік не сядзе ў турму. Ніхто не даваў яму права страляць у людзей.

Я запярэчыў — многія матэрыялы следства сведчаць, што вартаўнік не «страляў у людзей». Стрэл адбыўся выпадкова.

— Ды яго трэба пасадзіць толькі за тое, што хадзіў з зараджанай стрэльбай, — стаяў на сваім мой субяседнік.

Усе мы вялікія гуманісты і, вядома, супраць таго, каб стралялі ў людзей. Але, падумалася мне, сумленнаму чалавеку ўсё роўна—зараджана стрэльба ў вартаўніка ці не. Ён пастараецца пазбегнуць сітуацыі, дзе давялося б такім чынам выпрабоўваць лёс.

А з другога боку, сапраўды, якое выйсце ў вартаўніка, калі злодзеі, не зважаючы ні на што, нахабна робяць сваю справу? Гэтая праблема не раз ставілася ў нашым друку, але ясны адказ на пытанне так і не знойдзены. Існуе паняцце аб перавышэнні неабходнай абароны. Толькі дзе тая мяжа паміж неабходнай абаронай і перавышэннем гэтай абароны? Дакладна гэтага не ведаюць самі юрысты. Адзін кваліфікуе так, другі гэтак.

У начной бойцы на беразе сажалкі ўсё магло скончыцца яшчэ больш трагічна. Другі вартаўнік, Паўлюкевіч, расказваў мне, што на яго накінуліся адразу трое — двое білі кіямі па галаве, а трэці схапіў стрэльбу за рулю і пачаў тузаць да сябе, каб вырваць з рук. Шчасце, што вартаўнік не націснуў на спускавы кручок, а ў такой сітуацыі гэта магло здарыцца.

Пра ўсё гэта я сказаў Міхальчуку, і ён адразу пакрыўдзіўся, маўляў, яны не злодзеі, яны сумленныя інжынеры. А тое, што зрабілі, гэта, як кажуць, «птушыны грэх».

Я думаю, што Міхальчук выказаўся так не толькі, як зацікаўленая асоба. У яго словах знайшлі адбітак погляды, што ў нас бытуюць. Злодзей — гэта той, хто залез у чужую кішэню, абрабаваў кватэру... А, скажам, залезці ў сад і абтрэсці яблыню, ці, як у дадзеным выпадку,— палавіць рыбку ў чужой сажалцы — гэта так, нявіннае свавольства. А калі яшчэ той сад не грамадскі, а прыватны, дык гаспадару рэдка хто і паспачувае. Назавуць і кулаком, і ўласнікам, і чым хочаш. Я, вядома, не маю на ўвазе людзей, якія вышэй за ўсё на свеце ставяць свой уласны садок, ці аўтама-

За плячыма кайстра — зноўку
час не церпіць,—
У паходзе толькі вечна малады.
У дарозе сэрцу, птушцы
неспакойнай,
Дастаткова сонца, ветру, вышыні.
Як запеўка ў заўтра, нашае
сягоння
Родзіцца у яркім маладым агні.

**ПАМЯЦЬ**

Бацькаўшчына любая мая,
Крываточыш ранамі Айчыннай:
Тысячы акопаў на палях,
Стужкі доўгія бліндажных шчылін,
Баразна за бараздой...
Прайшла пара.
Твае раны загаілі гоні.
Толькі памяць не пераараць:
Негаючая — баліць даскону.

---

біль і гатовы за дзесятак яблык забіць чалавека. Такія выпадкі бывалі, пра іх шырока пісалася ў друку, і гэтыя нелюдзі— інакш іх не назавеш— справядліва атрымалі па заслугах.

Але пры ўсёй несуразмернасці віны і пакарання, мае сімпатыі і не на баку таго, хто пералез праз чужы плот. Я з вялікім падазрэннем чытаю нарысы, аўтары якіх, апавядаючы пра маладосць свайго станоўчага героя, гарэзліва расказваюць, што малалеткам яго ведалі ўсе навакольныя сады.

Я не веру, што чалавек, які аднойчы ўзяў чужое, не спакусіцца гэтым зноў. У пятнаццаць гадоў ён нарваў чужых яблык, у дваццаць—вынясе з завода каштоўную дэталь. Наогул, я не бачу прынцыповай розніцы паміж чалавекам, які ўкраў на рубель, і чалавекам, які ўкраў на сто. Мабыць, у юрыдычным плане гэта не адно і тое ж, у этычным, маральным — тое самае.

Няхай даруюць мне чытачы за гэтае адхіленне. Я палічыў неабходным паставіць усе кропкі над «і», бо на заводзе, дзе працуюць нашы героі, многія ім спачуваюць. Па сённяшні дзень грамадскія арганізацыі прадпрыемства не далі патрэбнай ацэнкі ўсёй гэтай гісторыі.

Так адбываецца, мабыць, таму, што Міхальчук і яго сябры высунулі сваю версію, згодна з якой яны нявінныя ахвяры нападу. Думаю, што зроблена гэта з мэтай заблытаць следства.

Але праўду цяжка схаваць, вось чаму такія блытаныя, супярэчлівыя іх паказанні. А. Сафронаў, напрыклад, сцвярджае, што ніхто не паехаў бы на сажалкі, каб ведаў, што яны належаць саўгасу і ахоўваюцца. Сам Сафронаў не паехаў. «Ніколі не трымаў у руках вуды». Але маральная віна і на ім. Ён там быў самы старэйшы і па ўзросце, і як дырэктар. Аднаго яго слова было б дастаткова. Астатнія ж гавораць іншае. Заводскі шафёр І. Жданаў прызнаецца, што за вячэрай ішла размова менавіта пра саўгасныя сажалкі і пра вартаўнікоў. Л. Міхальчук і І. Сухадолец божацца, што яны разам з І. Паланевічам не вудзілі рыбу, а спалі на беразе і што вартаўнік страляў у спячых. Але і тут у іх не сыходзяцца канцы з канцамі. Сухадолец гаворыць што стралялі з адлегласці 30—40 метраў, а Міхальчук — ва ўпор. Той жа Жданаў паказвае, што сам бачыў, як пад ногі вартаўніку кінуўся І. Сухадолец і ў гэты момант грымнуў стрэл. Судова-медыцынская экспертыза пацвердзіла, што пацярпеўшы І. Паланевіч у момант ранення знаходзіўся ў вертыкальным стане, г. зн. не ляжаў, а стаяў або бег.

І яшчэ адна характэрная акалічнасць. Ніхто з браканьераў, акрамя Паланевіча, не пацярпеў. Усе ж без выключэння вартаўнікі атрымалі цялесныя пашкоджанні, пра што сведчаць медыцынскія даведкі. У Паўлюкевіча было сатрасенне мозгу, у Клочкі — пашкоджаны рука і бок, у Сініцы і Маскалевіча—пабітыя твары...

Вось і ўсё пра гэту гісторыю. Следства яшчэ не паставіла апошняй кропкі, але будзем спадзявацца, што пераможа справядлівасць.

Саўгас «Лукавец» — Мінск.

□

**Артыкул быў ужо падрыхтаваны да друку, калі ў рэдакцыю пазваніў Аляксандр Мікалаевіч Стрынькевіч, следчы Мінскага абласнога ўпраўлення МУС БССР, які вёў гэтую справу, вёў, між іншым, вельмі кваліфікавана і скрупулёзна. Ён паведаміў, што крымінальная справа супраць вартаўніка К. Клочкі спынена.**



Гэта фатаграфія, падараваная Купалам Турлаковым...

# НАЗАЎСЁДЫ ЗАСТАЎСЯ Ў ПАМЯЦІ

Цудоўная чалавечая памяць. Яна захоўвае залатыя старонкі ўспамінаў, праз гады раскрывае іх для новых пакаленняў, дапаўняе тыя ці іншыя падзеі новымі фактамі і дэталямі.

Гэта з асаблівай сілай адчуваем мы, музейныя супрацоўнікі, у прыватнасці тыя, хто зерне за зернем збірае ўсё дарагое, звязанае з жыццём, творчай і грамадскай дзейнасцю народнага паэта Беларусі Янкі Купалы. Пошук купалаўскіх рэліквій, сувязь з людзьмі, якія добра ведалі або сустракаліся з класікам роднай літаратуры і захавалі ўспаміны пра яго, не толькі папаўняюць музейны арсенал, але і больш дасканала дамалёўваюць вобраз вялікага паэта і грамадзяніна.

Многа кніг, манаграфій, артыкулаў прысвечана Янку Купалу, але ў іх яшчэ недастаткова адлюстравана адна са старонак жыцця Янкі Купалы на Паўночным Каўказе, дзе паэт не раз бываў на адпачынку і лячэнні — у Кіславодску, Есентуках, Пяцігорску. Тут ён не толькі лячыўся, але і многа творча працаваў. Тут з-пад яго пяра выйшлі цудоўныя творы, такія, як цыкл вершаў «Чырвонай Арміі паходы», вершы «Сонечнаму Шата Руставелі», «Песня», «На смерць таварыша Кірава» і іншыя.

У Кіславодску Янка Купала вядзе перапіску з такімі вялікімі майстрамі мастацкага слова, як Міхаіл Ісакоўскі, Паўло Тычына, Аляксандр Карняйчук, Сяргей Гарадзецкі, Якуб Колас. У 1935 годзе з Кіславодска Я. Купала піша Я. Коласу.

Шкадую, дружа Колас,
Што тут цябе няма, —
Ясней свяціла б сонца,
Цяплей была б зіма,

Складалі б разам песні
Аб радаснай вясне,
Аб шчасці варажылі б
На іскрыстым віне.

Дзве тысячы кіламетраў
Сягоння дзеліць нас...
Але што значыць
вольным
Адлегласці і час!

Пра гэтыя гады плённай творчай працы расказваюць не толькі архіўныя дакументы, якія захоўваюцца ў Літаратурным музеі Янкі Купалы і іншых архівах. Зусім нядаўна мне давялося наведаць Кіславодск і Есентукі і перажыць шчаслівыя мінуты сустрэч з людзьмі, якія добра ведалі Янку Купалу і Якуба Коласа, сустракаліся і сябравалі з імі.

У Есентуках Я. Купала і Я. Колас былі разам у 1926 годзе. Жылі на дачы «Арлінае гняздо», што па вуліцы Анджыеўскага, 7, і лячыліся ў санаторыі імя Паўлава. Лячыў іх вядомы прафесар Аляксандраў. Зараз у гэтым доме гарадская курортная бібліятэка.

Найбольш успамінаў, перапіскі і фатаграфій аб жыцці Я. Купалы і П. Броўкі ў Кіславодску захавалася ў супрацоўнікаў санаторыя імя Горкага. Тры фатаграфіі — партрэты Янкі Купалы. Захаваліся групавыя здымкі: Янка Купала і Пятрусь Броўка ў бібліятэцы санаторыя; на другім — паэты сядзяць побач у адной з прыгожых мясцін Кіславодска («Красные камни»); на трэцім — Я. Купала з сям'ёй доктара Калітоўскага каля «Мядовага вадаспада». Усе гэтыя здымкі каменціраваў мне заслужаны ўрач РСФСР Аляксандр Валянцінавіч Венгяроўскі, які шмат гадоў працаваў галоўным урачом у санаторыі імя Горкага, добра ведаў Янку Купалу, лячыў яго, сябраваў і перапісваўся з ім.

— Наш санаторый, — успамінаў Аляксандр Валянцінавіч, — быў адкрыты па ініцыятыве Аляксея Максімавіча Горкага для работнікаў літаратуры, мастацтва



Дорогим славным
Тане и Максиму
Турлаковым
на память о милых встречах
в Кисловодске сан. им. М. Горького
Янка Купала
Кисловодск
13/II – 40 г.

...а гэта надпіс на ёй.

і навукі. Тут адпачывалі Станіслаўскі і Качалаў, акадэмікі Бардзін і Губкін, пісьменнікі А. Талстой, А. Серафімовіч і інш. У 201-й палаце 5-га корпуса жыў і пісаў Янка Купала. Ён быў адным з першых жыхароў гэтага корпуса, таму што будаўніцтва пятага корпуса было закончана ў канцы 1935 года, а Янка Купала прыехаў да нас у пачатку 1936 года. Я як цяпер бачу яго асветлены радасцю твар, калі мы яму паведамілі, што санаторыю толькі што прысвоілі імя Аляксея Максімавіча Горкага. «Гэта вельмі слаўна, — паўтарыў ён некалькі разоў, — а для мяне ўдвая, гэта ж імя майго старэйшага і лепшага настаўніка».

Памаўчаўшы, Аляксандр Валянцінавіч працягваў:

— Так, тут ён не толькі лячыўся, але і многа, плённа працаваў. Аднойчы я сяджу ў кабінеце і раптам заходзіць да мяне лечачы ўрач Купалы Іпаліт Іванавіч Жукоўскі. Я заўважыў на яго твары ўсхваляванасць. «Што здарылася?», — запытаўся я ў яго. «Піша. Піша начамі». «Хто піша?» — запытаўся я, здагадваючыся, пра каго ідзе гаворка. «Купала піша. Чалавеку лячыцца трэба, а ён працуе». Я супакоіў доктара. Сказаў яму, што Купала не можа не пісаць, гэтак, як мы, урачы, не можам не пісаць гісторыю хваробы хворага.

Аляксандр Валянцінавіч бярэ ў рукі фота, на якім сфатаграфаваны Янка Купала і Пятрусь Броўка. Ён углядаецца ў іх твары.

— Вось такімі яны засталіся ў маёй памяці. Купалы няма, а з Петрусём Броўкам вельмі хацелася б сустрэцца.

У размову ўключаецца жонка Аляксандра Валянцінавіча. Яна таксама добра ведала Купалу.

— Ён быў выключна душэўны чалавек, — гаворыць Ніна Давыдаўна. — Такія ж простыя і шчырыя яго вершы, якія я і зараз з любоўю перачытваю. Неяк Купала даведаўся, што я дрэнна сябе адчуваю. Вечарам, калі Аляксандр Валянцінавіч вярнуўся дадому, ён прынёс ад Купалы просты, але дарагі нам падарунак — чырвоныя яблыкі... «Гэта табе дарунак ад Купалы. Да таго ж ён перадаў табе наказ: адчуваць сябе так, як гэтыя моцныя прыгожыя зімовыя яблыкі». Зразумела, — гаворыць Ніна Давыдаўна, — справа не ў яблыках, а ў шчырых чалавечых адносінах, у вялікай увазе да чалавека, асабліва, калі яму неабходна падтрымка, — гэта было для мяне ў той час лепш за розныя лекі.

Супрацоўнікі санаторыя любілі Янку Купалу за яго прастату, душэўнасць, шчырасць і плацілі яму тым жа.

Даведаўшыся, што я з Літаратурнага музея Я. Купалы, прыйшла Маргарыта Вісарыёнаўна Хаштарыя — былая медсястра санаторыя імя Горкага, цяпер пенсіянерка.

— Кожны прыезд Янкі Купалы быў для нас вялікай радасцю, таму што ён быў не толькі вялікім паэтам, але і вялікім душэўным чалавекам, нашым сябрам, — расказвала яна. — Ён быў нейкі асабліва адкрыты: атрымае ліст ад сяброў — заўсёды падзеліцца з намі сваім настроем, пачуццямі; заўважыць на нашых тварах ледзь прыкметны сум — заўсёды пагаворыць, памкнецца чым-небудзь дапамагчы і падзяліць з намі наш смутак ці радасць. Купала ведаў, што я грузінка, і таму часта пытаўся ў мяне пра наш сонечны край, даваў чытаць мне свае творы, сярод якіх і верш «Сонечнаму Шата Руставелі», напісаны ім у нашым санаторыі.

Шмат цёплых слоў пра Я. Купалу выказала Субаценка Еўдакія Антонаўна. Яна ў сталовай абслугоўвала Янку Купалу апошнія тры гады знаходжання Я. Купалы ў санаторыі.

— Янка Купала быў вельмі сціплы чалавек і ніколі ў яго адносінах з людзьмі не заўважалася імкнення адмежаваць сябе, вялікага паэта, ад нас, радавых работнікаў сталовай. З усімі ён быў роўны, просты, шчыры, дзяліўся сваімі думкамі па розных жыццёвых пытаннях. Аднойчы ён быў у нас дома ў гасцях, і тады ён доўга гутарыў з маёй маці, цікавіўся нашым жыццём, з замілаваннем расказваў нам пра Беларусь, прачытаў некалькі вершаў пра свой край. У 1940 годзе, выязджаючы з санаторыя, Купала падарыў мне сваё фота з надпісам «Слаўнай Дусі ад беларускага паэта, Янкі Купалы». Назаўсёды застаўся ў памяці жывы вобраз чалавека-грамадзяніна, сціплага і ў той жа час вялікага паэта.

Ад Субаценка я накіравалася да Таццяны Арцёмаўны Турлаковай. Муж яе Максім Турлакоў загінуў на фронце. Яна і цяпер працуе ў санаторыі імя Горкага.

— Самае дарагое, што захавалася ў мяне з тых часоў — фатаграфія Я. Купалы з аўтографам: «Дорогим славным Тане и Максиму Турлаковым на память о милых встречах в Кисловодске. Сан. им. Горького. Янка Купала. Кисловодск. 13.II.40 г.» Многа гадоў прайшло з таго часу, але фатаграфія Янкі Купалы з аўтографам паэта і цяпер саграе маё сэрца. Пасля вайны да нас прыязджала Уладзіслава Францаўна. Адпачывала ў санаторыі «Гарняк». Мы яе сустрэлі як родную і блізкую, бо родным і блізкім быў нам Янка Купала. І Янка Купала, а пазней і Уладзіслава Францаўна, пакінулі аб сабе самыя светлыя і добрыя ўспаміны, яны засталіся ў нашай памяці жыццярадаснымі, простымі, прыветлівымі людзьмі.

Мае сустрэчы з людзьмі, якія ведалі народнага паэта, закончыліся размовай з першым сакратаром Кіславодскага гаркома КПСС Вячаславам Серафімавічам Мураxоўскім.

— Мы ганарымся, — сказаў ён, — што ў ліку вялікіх майстроў мастацтва і літаратуры ў нашым горадзе адпачываў і творча працаваў вялікі песняр Беларусі Янка Купала. Працоўныя горада яго не забудуць. Памяць аб Янку Купалу будзе ўвекавечана.

**Я. РАМАНОЎСКАЯ,**
**галоўны захавальнік фондаў Літаратурнага музея Я. Купалы.**

# ПЕСНІ БЕЛАРУСКІХ ПАРТЫЗАН

«Лясныя песні». Выдавецтва «Беларусь». Мінск. 1970 г.

**З хваляваннем бярэш у рукі гэтую невялічкую кніжачку. На яе вокладцы сярод зялёных дрэў, нібы лясное партызанскае вогнішча, гараць словы—«Лясныя песні». І чамусьці адразу прыходзяць на памяць другія словы: «Ой, бярозы ды сосны, партызанскія сёстры...»**

**«Лясныя песні» з'явіліся на свет праз 26 гадоў пасля вызвалення Беларусі ад гітлераўскіх захопнікаў. Але кніга гэтая — добрае дапаўненне да нашай літаратуры, народжанай у суровы ваенны час. Выданне зборніка песень беларускіх партызан успрымаецца як заканамерная з'ява ў гісторыі сучаснай беларускай літаратуры.**

**Мы жывём на зямлі, дзе кожны чацвёрты жыхар загінуў ад рук фашысцкіх захопнікаў, дзе і сёння яшчэ ў многіх беларускіх хатах чакаюць кагосьці з вайны. Таму зборнік «Лясныя песні» ўспрымаецца намі як выкананне нашага агульнага грамадскага абавязку перад памяццю тых, хто загінуў у барацьбе, і перад тымі, хто застаўся жывы, хто сёння разам з намі будуе новае жыццё і, магчыма, не спадзяваўся ўбачыць калі-небудзь свае творы надрукаванымі ў агульным партызанскім зборніку.**

**Высакародная душа нашага народа, які вёў бязлітасную барацьбу за вызваленне сваёй Радзімы, яго мужнасць, непахіснасць, адданасць справе партыі і вера ў канчатковую перамогу над ворагам— вось пафас і змест «Лясных песень». Гэта праўдзівы, суровы, паэтычны летапіс жыцця і барацьбы беларускіх партызан часоў Вялікай Айчыннай вайны.**

**Калі чытаеш творы зборніка, перад вачыма паўстае вобраз народнага мсціўцы, змагара-паэта, які часта ў адной сумцы побач з гранатамі насіў і сшытак ці блакнот з вершамі. Ён быў мужны і непахісны ў сутычцы з ворагам, надзейны быў яго аўтамат ці кулямёт, трапна білі ворага яго гранаты. У часы ж кароткіх адпачынкаў, сеўшы на пянёк ці прылёгшы на траве, ён сваю нянавісць да ворага імкнуўся выказаць у вершы, песні, байцы.**

**Так нараджалася большасць партызанскіх твораў. Вядома, не ўсе з іх аўтараў у аднолькавай меры валодалі паэтычным майстэрствам. І ўсё ж іх творы для нас — бясцэнная скарбніца. Вялікую грамадска-карысную і пачэсную працу правёў складальнік зборніка Язэп Зазека, які па крупінцы сабраў многае з таго, што было напісана партызанамі ў тыя ўжо далёкія для нас гады.**

**А. АЛЬФЯРОВІЧ,**
выкладчык літаратуры Пінскага мяса-малочнага тэхнікума.

# ХТО ТЫ, ТВОРЦА?

МУСІЦЬ, яшчэ мала каму з нашых чытачоў пашанцавала пазнаёміцца з гэтай кнігаю — з капітальным даследаваннем аднаго са старэйшых фальклярыстаў і літаратуразнаўцаў, дзевяностадвухгадовага балгарскага акадэміка Міхаіла Арнаудава «Псіхалогія літаратурнай творчасці», якая зусім нядаўна выйшла ў выдавецтве «Прагрэс». Яна варта таго, каб з ёй пазнаёміцца.

Вось асноўныя аспекты даследавання у гэтай кнізе: прырода мастацкага таленту, псіхалагічныя асаблівасці творчай асобы, літаратурны працэс ад пачатковай, падрыхтоўчай стадыі да моманту творчасці і ў часе творчасці, мова, мастацкае слова як будаўнічы матэрыял літаратуры.

Пазнанне прыроды мастацкага таленту мае доўгі і пакручасты шлях. Чаго толькі ні пісалі і ні сцвярджалі аб яго прыродзе на працягу шматлікіх вякоў і эпох! Сапраўды, якая стракатасць сцвярджаемых ісцін: боскае ўтрапенне — Платон, сінтэз свядомага і несвядомага — Шэлінг, «жывёльнае дыханне несвядомага» — Гартман, містычная інтуіцыя — Бергсан, праявы інстынктаў — Фрэйд, выраджэнне — Ламбразо! Аднак дапытлівы чалавечы розум упарта, настойліва вызваляў яе ад туману містыкі і ідэалізму, усё трывалей пераводзіў вывучэнне на прыродазнаўча-навуковую, матэрыялістычную глебу.

У нашай краіне выйшла нямала кніг, прысвечаных праблеме літаратурнай творчасці. Варта прыпомніць хаця б такія работы, як «Псіхалогія літаратурнай творчасці» В. Кавалёва, «Праца пісьменніка» А. Цэйтліна, «У лабараторыі пісьменніка» Мядзведзева, «Пісьменнік і яго работа» Г. Лянобля, «Псіхалогія мастацтва» Л. Выгоцкага, «Прырода мастацкага таленту» Г. Іліадзі, «Талент пісьменніка і працэсы творчасці» Б. Мейлаха, тэматычны зборнік «Садружнасць навук і таямніцы творчасці».

І ўсё ж таямніцы чалавечай творчасці, у прыватнасці — літаратурнай, вывучаны і навукова абгрунтаваны яшчэ недастаткова. У гэтым сэнсе кніга «Псіхалогія літаратурнай творчасці» М. Арнаудава ўяўляе асаблівую каштоўнасць. Яна дае ўдумліваму чытачу пэўную яснасць на ролю літаратуры ў жыцці грамадства і чалавека; вучыць, што мастацтва, літаратурная творчасць — гэта даволі складаныя з'явы чалавечай прыроды, заканамерны вынік духоўнага развіцця таленавітай асобы.

Што ж такое мастацкі талент — у нашым выпадку літаратурны талент? Уменне мовою праз паперу перадаць свае думкі, пачуцці, развагі, назіранні іншым людзям? Ардынарная заканамернасць інтэлектуальна - эстэтычнага развіцця кожнага з нас, развіцця і ўдасканалення нашага разумова-моўнага апарату?

Не будзем спрошчваць гэту даволі-складаную праблему. Нават і пры нашым дапушчэнні выходзіць, што ёсць падставы кожнага з нас у той ці іншай меры лічыць творцам — усе мы пішам сёе-тое. У выніку парадокс: пішуць усе, а пісьменнікаў-творцаў — адзінкі.

«Незразумеласць», гаворыць М. Арнаудаў, вось у чым: па-першае, што значыць свае думкі, пачуцці, развагі і г. д. — наколькі яны асабова арыгінальныя, эмацыянальна новыя, непаўторныя, інтэлектуальна багатыя, сацыяльна значныя для кожнага з нас; па-другое, як тоесна, раўназначна мы ўмеем перадаваць усё гэта сваё іншым. Першае, мусіць, і будзе не што іншае, як мастацкі, літаратурны талент, яго псіхафізіялогія, другое — аспект майстэрства, творчы працэс увасаблення, яго тэхналогія.

І ўсё ж літаратурны талент ёсць, бясспрэчна, больш складаная і менш рэдкая з'ява ў нашым жыцці, чым мы прывыклі лічыць. Яго даследаванне па-сапраўднаму толькі пачынаецца. І таму М. Арнаудаў не спрабуе даць нейкай закончанай яго фармуліроўкі. Ён толькі сцвярджае, што талент — гэта ўнутраная патрэба да духоўнай, стваральнай дзейнасці людзей з пэўнымі псіхафізіялагічнымі асаблівасцямі будовы, «інстынкт творчасці», а «творчасць — гэта здароўе».

Безумоўна, гэта не багата ў высвятленні прыроды літаратурнага таленту. Аднак зрабіць нешта большае і канкрэтнае ў гэтым напрамку адной псіхалогіі літаратурнай творчасці яўна не пад сілу: даследаванне прыроды мастацкага таленту патрабуе больш шырокага, комплекснага падыходу — ад генетыкі і псіхафізіялогіі творчай асобы да педагогікі і сацыялогіі, ад аналізу прыроды мастацкіх твораў да высвятлення асаблівасцей іх уздзеяння на чытача.

І ўсё ж кніга балгарскага акадэміка з'яўляецца несумненна новай старонкай у раскрыцці адной з таямніц прыроды, таямніцы чалавечай дзейнасці. Яна прыкметна вылучаецца сярод навуковай літаратуры на гэту тэму не толькі шырынёй пастаноўкі праблемы, глыбінёю пранікнення ў яе, але і метадалогіяй, падборам фактычнага матэрыялу, навуковай прынцыповасцю, смеласцю. Гэтая кніга — навукова дзёрзкая спроба марксісцкага вывучэння творчага працэсу, спроба пранікнення ў духоўны свет творчай асобы. Яе, мусіць, можна было б назваць і інакш — «Псіхалогія творчай асобы».

Чытаючы кнігу балгарскага вучонага, міжволі думаеш і пра нашу беларускую літаратуру, пра яе сённяшні і будучы дзень. Шкада, што ў нашай рэспубліцы мізэрна мала робіцца па вывучэнні і даследаванні праблем псіхалогіі літаратурнай творчасці, па распрацоўцы агульнатэарэтычных, філасофскіх пытанняў творчасці, мовы. Даследаванне, абагульненне і асэнсаванне творчага працэсу на матэрыяле роднай літаратуры, безумоўна, прынесла б карысць і самой літаратуры, дапамагло б многім таленавітым пісьменнікам узняцца на больш значныя творчыя вяршыні — як эстэтычна-інтэлектуальныя, так і грамадзянскія, філасофскія.

Кніга М. Арнаудава яшчэ раз пераконвае ў тым, што творца — гэта не толькі прыроджаныя псіхафізіялагічныя асаблівасці асобы, але і духоўнае асяроддзе, дзе ён жыве, ягоная воля, інтарэс да жыцця, творчасці і працы, гэта і ўсведамленне ім адказнасці за талент як набытак не так уласны, як народны, агульначалавечы.

В. РАБКОЎ.

М. Арнаудаў. «Псіхалогія літаратурнай творчасці». Выдавецтва «Прагрэс», М. 1970.

# ПАД НОВАЙ ВОКЛАДКАЙ

У біябібліяграфічным даведніку беларускіх пісьменнікаў 1959 года самым маладым беларускім пісьменнікам быў Рыгор Барадулін, а ў новым, сёлетнім, — Рыгор Семашкевіч. Адзінаццаць гадоў, якія падзяляюць даведнікі, час немалы, і таму натуральна, кніжкі гэтай даўно чакалі не толькі самі пісьменнікі, але і настаўнікі, бібліятэкары, гісторыкі-краязнаўцы, чытачы.

І вось ён выйшаў, біябібліяграфічны даведнік «Пісьменнікі Савецкай Беларусі». Новая кніга нават зрокава лепшая за папярэднюю: яна прыгожа аформлена, у падачы матэрыялу, мне здаецца, адчуваецца ўплыў першага тома БелСЭ. Складальнікі нямала папрацавалі ў выяўленні свежых матэрыялаў пра пісьменнікаў, творчасць якіх прыпадае на 20—40-я гады: адшуканы біяграфічныя даведкі, фотакарткі, выверана бібліяграфія. Ухіліліся, думаецца, складальнікі і ад суб'ектыўных ацэнак творчасці пісьменнікаў, у кнігу ўвайшлі звесткі пра зусім свежыя, маладыя літаратурныя сілы, хоць, праўда, і прадстаўлены яны занадта сціпла.

Ёсць у кнізе і прыкрыя памылкі, промахі. Я ўпамінаў, напрыклад, першы том БелСЭ. Аднак нават з ім разышоўся даведнік: у ім няма імя Алесі Александровіч (1904—1947), ёсць разыходжанні з энцыклапедыяй у падачы біяграфіі Міколы Аляхновіча і іншых пісьменнікаў.

Але мне хочацца сказаць пра іншае — пра прынцып падбору тых, чые імёны прадстаўлены ў кнізе. Яна знаёміць чытача толькі з членамі Саюза пісьменнікаў рэспублікі? Здаецца, не. Ахоп даведніка значна шырэйшы. На якой жа падставе адны таварышы ў ім значацца, а іншыя — не?

«Пісьменнікі Савецкай Беларусі». Выдавецтва «Беларусь». Мінск. 1970.

Прывяду адзін рахунак, які мае нейкае дачыненне да беларускага літаратуразнаўства і які сведчыць аб багацці роднай літаратуры. Даўно вёўся і вядзецца мною ўлік літаратараў, якія пісалі і пішуць зараз на беларускай мове. На сённяшні дзень лічба гэтая стала вельмі буйная — 2310! Я далёкі ад думкі, што прыведзеная мною лічба хоць напалову павінна была б увайсці ў даведнік. І ўсё ж пэўная частка з гэтых 2310 імёнаў магла б і павінна была б трапіць у даведнік такога характару. Назаву толькі некаторыя з гэтых імёнаў: Пампей Беразняк (1924—1966), Зоська Верас, Алесь Вечар, Пятро Бітэль, Ванда Лявіцкая, Мікола Грынчык, Ігнат Дварчанін, Іван Дабрынец, Іван Ісачанка, Аркадзь Кандрусевіч, Аўгіння Кавалюк, Клаўдзія Каліна, Іван Летка, Міхась Малочка (1914—1940), Вольга Нікановіч-Сахарава (1884—1943), Сяргей Новік-Пяюн, Алесь Пруднікаў (1911—1941), Павел Пруднікаў, Янка Патаповіч (1911—1944), А. Сержпутоўскі, Ганна Сапрыка (1911—1964), Алесь Сянкевіч (1884—1937), Янка Туміловіч (1905—1938), Кузьма Хромчанка, Мікола Чарняўскі, В. Станкевічанка (Ул. Луцэвіч) і г. д. Спіс мог бы быць куды большым.

Быў здзіўлены і такой акалічнасцю. У даведніку ёсць звесткі пра рускага пісьменніка Уладзіміра Варно, які даўно пакінуў Беларусь і жыве на Камчатцы. А вось звестак пра Яўгена Мазалькова (1909 — 1970), які напісаў некалькі кніг па беларускай літаратуры, няма.

Хацелася б бачыць і больш поўную біяграфію пісьменнікаў, нявáрта было апускаць асобныя радкі з жыццяпісу таго ці іншага літаратара. Бо можа здарыцца так, што гэтая даведка будзе некалі адзінай крыніцай для навуковага карыстання. Вось прыклад. Сапраўдная дата нараджэння Леаніда Гаўрылава — 2 лютага 1918 года, паэт выязджаў працаваць на Свірбуд, пасля заканчэння пединстытута настаўнічаў на Случчыне, адтуль быў прызваны ў армію.

Яшчэ адзін прыклад. У другой палове 20-х гадоў Міхайла Грамыка напісаў драматычны твор «Скарынін сын з Полацка». Рукапіс быў аддадзены для пастаноўкі на сцэне, ён хадзіў па руках, быў у тым ліку і ў Міколы Шчакаціхіна. Так скаліся абставіны, што твор недзе загубіўся, аднак ніхто не можа сцвярджаць, што назаўсёды.

І яшчэ. Варта было б даць (па магчымасці) усе псеўданімы пісьменнікаў.

І апошняе. Ніхто з пісьменнікаў, пэўна, не пакрыўдзіўся б, калі б даведнік пачынаўся са звестак пра пачынальнікаў нашай літаратуры — Янкі Купалы і Якуба Коласа.

**Г. КАХАНОЎСКІ,**
намеснік дырэктара Мінскага абласнога краязнаўчага музея.

# РАДАСЦЬ ДЗЕЦЯМ

Лаўрын Януковіч — настаўнік з Докшыцкага раёна — некалькі гадоў старанна запісваў багатую вусна-паэтычную творчасць нашага народа, у прыватнасці — Віцебшчыны. Ён многа сабраў народных калыханак, забавак, жартаў, небыліц, песенек, частку з іх апрацаваў і выдаў асобнай кніжкай для дзяцей «За ельнічкам, за бярэзнічкам». Кніжка атрымалася цікавай і змястоўнай, зачароўвае сваім свежым гучаннем слова. Чытаючы яе, пераконваешся, што Л. Януковіч добра ведае, любіць і шануе скарбы роднай мовы, тонка адчувае рыфму, народны рытм, умела «папраўляе» асобныя радкі, адным словам, творча падыходзіць да народных скарбаў.

Люлі, люлі, каточак,
Злізаў бабчын мядочак.
Сама бабка злізала,
На каточка сказала.
Каток бабкі збаяўся,
Пад пярынку схаваўся.
Бабка коціка знайшла
І за вушкі патрасла.

Гэтыя словы з калыханкі «Люлі, люлі, каточак» гучаць надзвычай меладычна, даносяць да нас, старэйшых, даўнюю радасць дзяцінства, яго інтарэсы, непаўторнасць і бесклапотнасць. А маленькім — музыку роднага слова, яго прыгажосць, першародную чысціню. Развівае мысленне ў дзяцей, цікаўнасць да акружаючага свету і такі, напрыклад, жарт:

Ходзіць бусел па балоце,
Работы не мае.
Траву смыча,
Дзюбай тыча
Ды ўсё пазяхае.

Спадабаюцца маленькім жарты «Мой дом недалёка», радок з якога даў назву кніжцы, «Заяц, дзе ты быў?», зацікавяць іх і небыліцы «Глянь, высокі чалавек...», «Узлез хлопчык на стоўбчык», і песенькі «Сонейка, сонца», «Птушачка», «Сядзіць мядзведзь на покуці» і многія іншыя.

Прыемнае ўражанне пакідаюць і малюнкі мастачкі Алены Лось, якімі ўпрыгожана кніжка.

Г. ДАЛІДОВІЧ.

Лаўрын Януковіч. «За ельнічкам за бярэзнічкам». Выдавецтва «Беларусь». Мінск. 1969.

# АДПАЧЫНАК — СПРАВА СУР'ЁЗНАЯ

*ДА ВЫНІКАЎ АГЛЯДУ ПАРКАЎ І ФЕСТЫВАЛЮ МАСАВЫХ ТЭАТРАЛІЗАВАНЫХ СВЯТ*

Бадай не знойдзеш такога гарадскога жыхара, які не любіў бы наведваць паркі культуры і адпачынку. Адны шукаюць у зялёных зонах гарадоў толькі цішыню і спакой, свежае паветра і спеў птушак. Другім гэтага мала, яны хочуць спалучаць прыемнае з карысным, паслухаць лекцыю ці даклад, паглядзець канцэрт, паўдзельнічаць у шахматным конкурсе, спартыўным ці тэатралізаваным свяце, сустрэцца з ветэранамі рэвалюцыі, войнаў і працы, пісьменнікамі і дзеячамі мастацтваў, адпачываючы, нешта ўведаць новае, павысіць свой культурны ўзровень.

Па масавасці і размаху работы, па ахопе ўсіх катэгорый наведвальнікаў ніводная культасветустанова не можа параўнацца з паркамі. У гэтым іх асаблівасці, у гэтым і перавагі работы.

Амаль два гады ішлі Усесаюзны агляд паркаў і фестываль тэатралізаваных свят і прадстаўленняў, прысвечаныя стагоддзю з дня нараджэння У. І. Леніна. У іх прынялі ўдзел усе паркі культуры і адпачынку рэспублікі. І трэба сказаць, што агляд і фестываль у многім садзейнічалі ажыўленню работы гэтых культасветустаноў пад адкрытым небам, пераважнай большасці іх прынёс добры плён.

У газетах не раз ужо адзначалася работа мінскага Цэнтральнага дзіцячага парку імя М. Горкага. Дружны, таленавіты калектыў працуе ў гэтай культурна - асветнай установе. Парк размешчаны ў цэнтры горада, і сюды ідуць і стары, і малы. Супрацоўнікі парку таму і стараюцца рабіць усё магчымае, каб прынесці задавальненне ўсім катэгорыям наведвальнікаў.

Цяжка нават пералічыць ўсё, што рабілася за гэтыя гады ў парку. Тут працуюць лекторыі «У свеце прыгожага», «Каля карты свету», «Навука і рэлігія», «Здароўе», вялікія цыклы лекцый былі прысвечаны ленінскай тэматыцы, дасягненням нашай Радзімы ва ўсіх галінах народнай гаспадаркі, культуры і навукі. Тэатралізаваныя святы, вечары для юнацтва, прысвечаныя выбару прафесіі, сустрэчы з героямі вайны і працы, пісьменнікамі і кампазітарамі, вечары маладых літаратараў... Спартыўныя мерапрыемствы і экскурсіі, выстаўкі работ самадзейных мастакоў і канцэрты на адкрытых пляцоўках, клубы па інтарэсах і гурткі мастацкай самадзейнасці, у тым ліку лялечны тэатр... А школа фігурнага катання, у якой займаецца каля чатырохсот дзяцей, а студыя выяўленчага мастацтва, гурток па вывучэнні англійскай мовы! Дзве тысячы школьнікаў у пазашкольны час займаюцца ў паркавых гуртках і студыях, школах і тэатрах. Толькі ў 1970 годзе мерапрыемствы, якія праводзіліся ў парку, наведала больш мільёна чалавек.

Шмат выдумкі і ініцыятывы праявілі ў рабоце супрацоўнікі брэсцкага парку культуры і адпачынку. Цікава праходзілі тут вечары «Таварыш Ленін, мы вам дакладваем...» Гэтыя вечары ператвараліся ў своеасаблівыя рапарты прадпрыемстваў горада не толькі аб вытворчых поспехах, але і аб росце культуры людзей, росквіце народнай творчасці, аб выдатных зменах у жыцці і быце працоўных. Любімымі ў наведвальнікаў сталі «Маладзёжныя вечары», якія праходзілі ў кожны чацвер. Юнакі і дзяўчаты слухалі расказы знакамітых людзей горада і вобласці, канцэрты, развучвалі новыя песні, танцы і гульні. Вельмі хвалюючым, эмацыянальна ўзнёслым было ў брэсцкім парку тэатралізаванае свята «Гімн мужнасці». У ім прынялі ўдзел дзвесце ўдзельнікаў гераічнай абароны Брэсцкай крэпасці, маладзёжны ансамбль «Радасць», госці горада — ансамблі маракоў і пагранічнікаў, воіны гарнізона. На высокім ідэйна-мастацкім узроўні прайшлі тут таксама святы «Ён нарадзіўся вясной», «Салют перамогі», «Брэсцкая сняжынка» і іншыя.

Наведвальнікі брэсцкага парку за час агляду змаглі праслухаць выступленні 175 лектараў і дакладчыкаў, пабываць на 95 музычна-літаратурных вечарах і сустрэчах, прагледзець 170 канцэртаў артыстаў і ўдзельнікаў мастацкай самадзейнасці, наведаць 162 вечары кінахронікі, прыняць удзел у 105 спартыўных сустрэчах і спаборніцтвах, 206 маладзёжных вечарах, 14 святах вуліц.

Многа цікавага зроблена за гэты час і ў гомельскім парку. Асабліва запомніліся Ленінскія чытанні, тэматычныя вечары, сустрэчы з ветэранамі рэвалюцыі... Вялікая ўвага тут была нададзена ваенна-патрыятычнаму выхаванню моладзі. Разам з гарваенкаматам работнікі парку арганізавалі трыццаць праводзін юнакоў на службу ў Савецкую Армію. Добра наладжана тут і шэфская работа над сялом.

Бадай нідзе столькі не зроблена па дабраўпарадкаванні парку, як у Гомелі. За лік левабярэжнай часткі Сожа тэрыторыя парку пашырана на 43 гектары, заасфальтавана 24 тысячы кв. м. алей, пастаўлена трыста новых лавак, высаджана дзесяткі тысяч дэкаратыўных дрэў і кустоў. Над Сожам ускінуўся прыгожы пешаходны мост.

Аб'яднаная дырэкцыя віцебскіх паркаў больш за ўсё ўвагі ўдзяляла арганізацыі буйных культурна-масавых мерапрыемстваў, калектыўных вечароў адпачынку прадпрыемстваў горада, выставак, спартыўна-масавай рабоце. Змястоўна пачаў працаваць бабруйскі парк культуры і адпачынку, які нядаўна яшчэ лічыўся на адным з апошніх месц. Дадатныя зрухі дасягнуты ў рабоце пінскага лідскага, барысаўскага, аршанскага і іншых паркаў. У гэтых парках шырока арганізоўваліся Ленінскія чытанні, вечары-рапарты, вечары інтэрнацыянальнай дружбы, вусныя часопісы, народныя гулянні, кіналекторыі, конкурсы і выстаўкі. Усе гэтыя паркі больш увагі сталі надаваць рабоце з дзецьмі, што вельмі важна.

Калі гаварыць аб некаторых агульных выніках работы паркаў у час агляду, то варта падкрэсліць, што за няпоўныя два гады было прачытана каля дзвюх тысяч лекцый і дакладаў, прадэманстравана больш трох тысяч дакументальных і навукова-папулярных фільмаў, арганізавана 872 тэматычныя вечары, 1513 канцэртаў удзельнікаў мастацкай самадзейнасці і 796 канцэртаў прафесіянальных калектываў, 84 масавыя тэатралізаваныя святы, каля дзвюх тысяч спартыўных мерапрыемстваў і каля сямісот мерапрыемстваў для дзяцей.

Нягледзячы на шматлікія цяжкасці, значна палепшылася матэрыяльная база паркаў культуры і адпачынку. Я ўжо гаварыў пра добрыя змены ў гомельскім парку. А ў парку імя Чэлюскінцаў Мінска здадзена ў эксплуатацыю зімовая танцавальная зала, у Наваполацку і Навагрудку — танцавальныя пляцоўкі, у Цэнтральным дзіцячым парку імя М. Горкага ў Мінску — зімовае кафэ. Куплена і ўстаноўлена больш тысячы лавак. Узніклі 38 механізаваных атракцыёнаў, новыя паркі каля Докшыцкага і Лагойскага дамоў культуры. Вядуцца падрыхтоўчыя работы і хутка будуць адкрыты паркі ў Салігорску, Валожыне, Светлагорску, Жлобіне, Калінкавічах і Нароўлі. Падрыхтавана праектна-каштарысная дакументацыя на будаўніцтва танцавальных залаў у гомельскім, брэсцкім і маладзечанскім парках.

Гэтымі днямі калегія Міністэрства культуры БССР разгледзела вынікі ўдзелу паркаў культуры і адпачынку рэспублікі ва Ўсесаюзным аглядзе і рэкамендавала для ўзнагароды памятным сцягам Міністэрства культуры СССР, ЦК ВЛКСМ, рэдакцыі газеты «Известия» і ЦК прафсаюза работнікаў культуры Цэнтральны дзіцячы парк імя М. Горкага Мінска; для прысваення звання лаўрэата агляду — брэсцкі і гомельскі паркі культуры і адпачынку; для прысваення звання дыпламанта агляду — віцебскі і бабруйскі. Рэкамендаваны таксама для ўзнагароды дыпламамі шмат іншых паркаў рэспублікі і іх работнікаў.



Кастрычнік у парку. Фотаэцюд Ул. КРУКА.

У той жа час на пасяджэнні калегіі падкрэслівалася, што работа некаторых паркаў яшчэ не адпавядае запатрабаванням насельніцтва, паркі нездавальняюча выконваюць пастанову Савета Міністраў рэспублікі «Аб мерах па паляпшэнні арганізацыі масавага адпачынку і культурнага абслугоўвання насельніцтва». У слуцкім, магілёўскім, столінскім парках слаба выкарыстоўваюцца масавыя формы культурнага адпачынку, наглядная агітацыя. Тэрыторыі гэтых паркаў малыя і недагледжаныя. Мала яшчэ будуецца закрытых памяшканняў, якія далі б магчымасць працаваць паркам ва ўсе поры года.

Усё гэта абавязвае работнікаў культуры прыняць усе меры, каб пазбавіцца недахопаў у рабоце паркаў. Адпачынак — справа сур'ёзная.

**І. КРЫЖЭВІЧ,**
**старшы інспектар Міністэрства культуры БССР.**

## НОВЫЯ НАЗВЫ НА АФІШАХ



«Спячая прыгажуня». Аўрора — народная артыстка БССР Н. Давыдзенка, Дэзірэ—народны артыст БССР В. Давыдаў.



«Маскоўскія канікулы». У ролі Каці — С. Акружная, Алега — М. Трухан.



«Акіян». Злева направа: Часоўнікаў—заслужаны артыст БССР А. Цароў, віцэ-адмірал Мінічаў—В. Дзёмін, Зуб—народны артыст БССР Я. Кімберг.



«Дарога праз ноч». Заслужаны артыст БССР Ул. Говар-Бандарэнка — камандзір партызанскага атрада, артыстка Т. Калеснік — Славік.

**У тэатрах рэспублікі пачаўся чарговы сезон. Ужо ў першыя дні адбыўся шэраг прэм'ер.**

**На здымках, якія зрабілі для нас фотакарэспандэнты А. Каляда, С. Кохан і Я. Краўчанка, вы бачыце сцэны са спектакляў.**

**Дзяржаўны тэатр оперы і балета паказаў балет П. Чайкоўскага «Спячая прыгажуня». Дырыжор — Т. Каламійцава. Балетмайстар — Н. Фёдарава. Мастак—А. Краўчанка. У спектаклі побач са сталымі артыстамі выступіла моладзь.**

**З лірычнай камедыяй А. Кузняцова «Маскоўскія канікулы» пазнаёміў гледачоў Дзяржаўны драматычны тэатр імя Якуба Коласа. Пастаноўку ажыццявіў малады рэжысёр Л. Кавалёў. Мастацкае афармленне А. Салаўёва. Кампазітар—Б. Насоўскі.**

**Галоўны рэжысёр тэатра юнага гледача Б. Ганага паставіў спектакль па п'есе А. Маўзона «Дарога праз ноч». Музычнае афармленне спектакля Я. Глебава. Мастак—Ю. Тур. Балетмайстар—А. Дадзішкіліяні**

**П'есу А. Штэйна «Акіян» паставіў Гродзенскі абласны драматычны тэатр. Рэжысёр—А. Струнін. Мастак — М. Якунін. Музычнае афармленне Я. Юзафовіча.**

АКАДЭМІЧНЫ ТЭАТР імя ЯНКІ КУПАЛЫ 50

АКЦЁРЫ І РОЛІ

# ТОЛЬКІ АДЗІН МАНАЛОГ...

**НАРОДНЫ АРТЫСТ БССР ВІКТАР ТАРАСАЎ У РОЛІ АХМЕДА РЫЗЫ**

„НУ І ДЗІВАК! Дзівак... Ты ведаеш, з таго часу, як я перастаў быць дзіваком, як кажуць, падаў у адстаўку, як я стаў прыстойным чалавекам і маё ранейшае жыццё засталося ззаду, як далёкі чужы бераг, я ўсё часцей думаю аб дзіваках. Учора ўночы, напрыклад, я ўбачыў у сне Джардана Бруна. Стаіць на кастры і падсмажвае сваё мяса. Дзівак! Што за ідыёцкі занятак, божа! Якая велічная дурасць! Ну што здарылася б, калі б Джардана Бруна перастаў упірацца? Ну, сказаў бы, што Капернік памыляецца, што Зямля не круціцца вакол Сонца—хіба свет загінуў бы?.. А гэты хлапчына, якому, бачыце, захацелася ўзняцца ў неба!.. Людзі гаварылі яму: «Спыніся, вар'ят! Што ты робіш?! Чалавек не можа адарвацца ад зямлі!» Не паслухаўся. Бедны Ікар! Ды нашто далёка хадзіць? А гэтыя, нашы, ну тыя, аб якіх так хадайнічае Ісмаіл,—сорак пяць Дон-Кіхотаў! Вар'яты! Дзівакі! Што яны могуць зрабіць? Не было б іх, зямля не перастала б круціцца... А можа, перастала б?.. Хто ведае! Можа!.. Можа б яе абнеслі агароджай?! Можа... Можа зямля і круціцца толькі дзякуючы дзівакам?..»

Гэта — маналог Ахмеда Рызы з п'есы Назыма Хікмета «Дзівак», лепшай, на наш погляд, работы Віктара Тарасава.

Маналог на сцэне—заўсёды падарожжа ў глыб чалавека. Для гледачоў у гэтыя хвіліны чалавек раскрываецца ўвесь, нават калі зараз ён хлусіць сабе або субяседнікам. Інакш гэта — усяго толькі пракурорская або адвакацкая прамова акцёра «ад імя і па даручэнні» аўтара. Кожнага акцёра радуе, калі ў ролі ёсць маналог, але толькі для нямногіх ён з'яўляецца вышэйшым выяўленнем іх чалавечай асобы і акцёрскага «я». Гэта—акцёры, для якіх у тэатры няма больш цікавага і важнага, чым унутраны канфлікт чалавека, чым працэс духоўнага крызісу ў самым вышэйшым пункце яго...

Герой хікметаўскай п'есы Ахмед Рыза па прафесіі адвакат, а па схільнасці душы—«дзівак»: ён жыў, падначальваючыся толькі голасу ўласнага сумлення. Урэшце жанчына, якая для Ахмеда такая ж дарагая, як і чыстае сумленне, пакінула яго. Пайшла ад нястач, ад жыцця «не як ва ўсіх». Страціўшы Ніхаль, ён хоча толькі аднаго: зноў яе вярнуць. І ён прадае сваё сумленне—таму, што яго чысціня не патрэбна была нават каханай. У пачатку трэцяга акта Ахмед, ужо славуты і багаты адвакат, даведваецца, што Ніхаль пакахала Наджмі—яго былога сябра. Наджмі гаворыць, што не можа пайсці на блізкасць з Ніхаль, пакуль Ахмед не дасць ёй разводу.

«Ну і дзівак!..»—смяецца Ахмед—Тарасаў. Гэта смех цвярозага і практычнага сельскага жыхара з гарадской прастаты, смех рымскага заканадаўцы з плябея, паслухмянага яго законам, смех егіпецкага жраца з таго, хто верыць у яго багоў. І раптам Ахмед разумее, што смяяўся ён з самога сябе: і гэты асабняк, і гэтыя грошы, і ўвесь запас пяшчоты і клопатаў, якія ён назапасіў для Ніхаль, аказаліся непатрэбнымі. Яго подласць аказалася такой жа бессэнсоўнай, як і яго чысціня. «Дзівак»,—паўтарае ён.

«Ты ведаеш, з таго часу, як я перастаў быць дзіваком, як кажуць, падаў у адстаўку, як я стаў прыстойным чалавекам і маё ранейшае жыццё засталося ззаду, як далёкі чужы бераг, я ўсё часцей думаю аб дзіваках...» Першы раз за ўсе гэтыя гады Ахмед прызнаецца ўголас у тым, што яму няміла яго новае жыццё і што думкі аб ранейшым не пакідалі яго. А мы чуем: як гэта было даўно... Як гэта было смешна... Як хараша гэта было... І як гэта было бязглузда... Жыццё пражыта дарма?.. Ён хоча зразумець, чаму не можа забыць мінулае, не думаць аб дзіваках, ставіцца да іх, як да наіўных дзяцей.

«Учора ўночы, напрыклад, я ўбачыў у сне Джардана Бруна. Стаіць на кастры і падсмажвае сваё мяса. Дзівак! Што за ідыёцкі занятак, божа! Якая велічная дурасць! Ну што здарылася б, калі б Джардана Бруна перастаў упірацца? Ну, сказаў бы, што Капернік памыляецца, што Зямля не круціцца вакол Сонца — хіба свет загінуў бы?..»

Джардана Бруна быў разумным чалавекам; ён ведаў, што наперадзе яго чакае касцёр,—і пайшоў. Лягчэй за ўсё, канечне, назваць яго дзіваком, і Ахмед разумее гэта. Але як адказаць на пакутлівае пытанне: дзеля чаго? Тарасаў—Ахмед не баіцца смерці. Узысці на касцёр? Можна. Але навошта? Для таго, каб ашукаць сябе чарговай ілюзіяй, няшчасным каханнем? Аднак ён ужо ашукаўся двойчы—калі быў «дзіваком» і калі перастаў ім быць. А што змяніў Джардана Бруна? Зямля стала круціцца хутчэй? Людзі сталі лепшыя? Ён проста забіў сябе, як Ахмед забіў сваё сумленне, сваё каханне. Дык гарыце, паны Бруна, ясным агнём, але без мяне!...

«А гэты хлапчына, якому, бачыце, захацелася ўзняцца ў неба!.. Людзі гаварылі яму: «Спыніся, вар'ят! Што ты робіш? Чалавек не можа адарвацца ад зямлі!» Не паслухаўся. Бедны Ікар!». Ахмед—Тарасаў усё больш злуе: яму ўжо недастаткова асуджаць дзівакоў як ахвяр самаашукання, як самазабойцаў. Ён абвінавачвае іх у тым, што яны яшчэ і забойцы, што з дзяцей яны робяць непапраўных Ікараў, асуджаных на раннюю і непатрэбную смерць. Зараз яму вельмі хацелася б перайграць гісторыю, перайграць яе так, каб не было дзівакоў—ні аднаго, ніколі. Каб кожны быў шчаслівы тым, што яму дадзена, што яму пад сілу, што яму дазваляе жыццё. Але ў тым жа і справа, што сам Ахмед — нешчаслівы, што сам ён пакутліва шукае адказу на пытанні аб сэнсе жыцця. Калі ён гаворыць: «Бедны Ікар»,—ён і шкадуе яго, і здзекуецца з яго, шкадуе сябе і здзекуецца з сябе.

«Ды нашто далёка хадзіць? А гэтыя, нашы, ну тыя, аб якіх так хадайнічае Ісмаіл,—сорак пяць Дон-Кіхотаў! Вар'яты!» Перад прыходам Наджмі Ахмед адмовіўся абараняць на судзе сорак пяць арыштаваных камуністаў: інакш ён страціў бы тое становішча ў грамадстве, якое стварыў для Ніхаль. А зараз... Яны Дон-Кіхоты, вось чаму ён не жадае абараняць іх зараз. Яшчэ хвіліну назад непатрэбная ахвяра і безвыніковы подзвіг для яго былі ўсё ж «велічнай дурасцю». І калі «дурасць, вар'яцтва» адштурхоўвалі Ахмеда, то «веліч» прыцягвала. Зараз жа яго «сорак пяць Дон-Кіхотаў» прагучала, як «зборышча дурняў». Тое, што было трагічным, раптам стала нікчэмным і вартым жалю. Тарасаў—Ахмед спыняецца ў безвыходнасці: для яго непрыймальныя абодва чалавечыя шляхі. І—зноў вяртаецца да думкі аб дзіваках...

«Дзівакі! Што яны могуць зрабіць?..» Джардана Бруна згарэў, Ікар—разбіўся, сорак пяць камуністаў будуць расстраляны або сядуць у турму. Няўжо ніхто з іх не разумеў, што іх ахвяры нічога не далі? Галілей ахвяраваў «кавалкам» сумлення—і захаваў сваё жыццё дзеля справы. Ён і яго вучні, а не Джардана Бруна, зацвердзілі ў навуцы ідэі Каперніка. Той жа Джардана Бруна не мог не ведаць, што яго жыццё для справы Каперніка— яго справы — важнейшае, чым смерць. Дык дзеля чаго гінуць дзівакі, дзеля чаго яны «донкіхотнічаюць»?

Ахмеду—Тарасаву зараз лягчэй было б памерці, чым жыць. Але ён моцны чалавек і не можа жыць або памерці, не адказаўшы, «дзеля чаго?» Прасцей за ўсё, вядома, было б адказаць: усё, што ні робяць дзівакі, яны робяць дзеля ўласнага сумлення, ведаючы, што яны ўзялі ад жыцця ўсё вялікае і цудоўнае і пакінулі людзям усё сумнае і нікчэмнае. Ну, а калі яны зрабілі так таму, што ведалі: вось—праўда, а гэта — хлусня, вось справядлівасць, а гэта — несправядлівасць, і я не магу прымусіць сябе назваць чорнае белым, нават у імя справы, якой я служу? А калі так, дык хто ад гэтага выйграваў? Справа? Дзівак? Яго вучні? Чалавецтва?..

«Не было б іх, зямля не перастала б круціцца. А можа, перастала б? Хто ведае! Можа!.. Можа б яе абнеслі агароджай?! Можа... Можа зямля і круціцца толькі дзякуючы дзівакам?..»

Можа жыццё спынілася б?.. Галілей дакончыў справу Каперніка, Галілей даказаў яго справядлівасць, вучні Галілея тайком разнеслі гэтыя адкрыцці іншым вучоным ва ўсе канцы Еўропы—ад Іспаніі да Расіі. Але каго, апрача фізікаў і астраномаў, зацікавіла б навуковае пытанне, ці круціцца Зямля вакол Сонца, калі б Джардана Бруна не ўзышоў дзеля гэтага на касцёр? І наколькі пазней рухнула б інквізіцыя, калі б не Джардана Бруна? Няўжо дзівакі—фундамент, на якім трымаецца свет, карэнні вечнага дрэва жыцця, а справы, ідэі, адкрыцці, дасягненні—толькі яго плён? Няўжо жывучы і паміраючы ў імя сваёй ідэі і сумлення, яны гэтым самым становяцца сумленнем чалавецтва, рычагом, які прыводзіць у рух душу дзіцяці і цэлы народ?..

Або гэта толькі здаецца? І дзіваку адгукаецца толькі такі ж дзівак? А жыццё ідзе сваёй чаргой — рэальнае, бессэнсоўнае, нязменнае? Вось што трэба ведаць Ахмеду—Тарасаву. Можа той самы Джардана Бруна зараз тут, у яго Турцыі, абудзіць звычайнага, проста добрага чалавека да ўчынкаў насуперак яго асабістай выгадзе, яго эгаістычным інтарэсам? Ён павінен неадкладна праверыць гэтую думку.

Так у адным маналогу падвёўся вынік цэлага жыцця і ўзнікла магчымасць новага, раскрыўся ўвесь чалавек.

Далей Ахмед — Тарасаў займаецца псіхалагічнай правакацыяй: ён выпрабоўвае людзей на бескампраміснасць і на бескарыслівую дапамогу. І калі сустракае такога сумленнага чалавека, прымае рашэнне: ён абавязкова будзе абараняць сорак пяць камуністаў.

Калі гэта адбываецца, мы не здзіўлены: усё гэта ўжо было падрыхтавана ў яго маналогу.

**У. РУДАЎ,**
**К. ХАДЗЕЕЎ.**



---

СПАЧАТКУ знаёмства было завочнае...

Зрэдзь часу ў рэдакцыю прыходзілі пісьмы, у якіх былі вершы і скупыя словы са зваротам да «шаноўнай рэдакцыі»: маўляў, так і так, зноў асмельваюся патурбаваць вас, сам разумею, што паэт з мяне невялікі, ды і часу не маю на тое, каб абрабляць вершы з цярпеннем, аднак—пачытайце, памяркуйце, можа, што-кольвечы з дасланага льга пусціць у свет.

Гэтыя кароткія лісты-прыпіскі сведчылі, што аўтар іх—чалавек сціплы, памяркоўны, разважлівы, што вершаскладанне для яго—не забаўка, хоць, пэўна, і не галоўнае ў жыцці (з лістоў было вядома, што ён працуе слесарам у дэпо і размяняў ужо пяты дзесятак).

Прываблівалі і вершы—пры ўсіх сваіх недахопах. Перш за ўсё—непасрэднасцю, шчырасцю пачуцця. А яшчэ—трапнасцю, тонкасцю назіранняў, удалымі знаходкамі. Сярод строф верша, запоўненых даволі сцёртымі, агульнымі словамі, сярод строф, пазбаўленых адзнак чалавечай асабістасці, нечакана можна было прачытаць і такія, напрыклад, радкі:

Як дзяўчаты, прыціхлі бярозы,
Сумна звесіўшы косы на дол.
Плача восень па леце, і слёзы
Туманом разліліся наўкол.

Альбо:

Гоняць цяпло ў далячынь
Спозненых кос перазвоны.
Першая чырвань асін,
Першае золата клёнаў...

Ці:

Ноч прыйшла — часіна мараў.
Па дзённай спякоце.
Лысы месяц вісне ў хмарах,
Як гарбуз на плоце.

---

ДА ПАЧАТКУ рэпетыцыі заставалася яшчэ добрая гадзіна. Разам з Іванам Ільічом Клімовічам мы разглядалі тоўсты альбом у зялёнай вокладцы — гісторыю народнай харавой капэлы калгаса «Сцяг Саветаў». Акуратным, трохі вуглаватым вучнёўскім почыркам тут было напісана, што вёска Дзяляцічы спрадвеку славіцца песнямі, што першы канцэрт мясцовага хору адбыўся больш як сорак гадоў назад.

— Ды што й казаць... Колькі памятаю сябе, дык усе спявалі ў вёсцы. І маці мая, і бацька любілі паспяваць, — Іван Ільіч памаўчаў, прыгладзіў і без таго гладкія сівыя валасы. Ён «размяняў» ужо сёмы дзесятак, але яшчэ жвавы і бадзёры, працуе ў калгасе, адзін з самых актыўных артыстаў капэлы. — Некалі ўсё Прынямонне ведала нашых плытагонаў. Іх пазнавалі па песнях. Калі спяваюць прыгожа, складна, значыць — дзяляціцкія мужыкі. Пасля вайны і мне даводзілася сплаўляць лес. Цяжкі хлеб. Але, бывала, надвячоркам прыстанем да берагу, раскладзем агонь... Эх, нідзе так добра не спяваецца, як над рэчкай, ля вогнішча!.

Твар Івана Ільіча маладзее, яго яшчэ сінія вочы блішчаць задзірыста і весела.

У пакой заходзіць Міхась Іванавіч Шунько, таксама ветэран капэлы. Сеў, прыслухаўся да нашай гаворкі.

— Помню, дзед мой як заспявае, дык аж шыбы ў вокнах дрыжаць, — уступіў у размову Міхась Іванавіч.— Ох, і магутны быў у яго голас! Кантрабас, дальбог. Возьмецца за падбародак, нібы прытрымлівае, а ў горле, як у бочцы, гудзе і перакатваецца... І прадзед, казалі, умеў так зацягнуць, што аж гай шумеў... Адным словам, як першы раз узышло сонца, у Дзяляцічах ужо быў хор, — смяецца Шунько.

Клімовіч успамінае, як у трыццатыя гады дзяляціцкія артысты давалі канцэрт у Любчы, суседнім пасёлку.

— Выступалі ў нейкім свірне. Народу набілася процьма. І раптам шкло на лямпе дзынк — і пасыпалася. Стала цёмна, хоць вока выкалі. Цішыня. І вось у цішы пачуўся дрыжачы ўсхваляваны голас: «Смело, товарищи, в ногу...» Песня расла, нібы набліжалася. Неўзабаве цяжка было разабраць, дзе гледачы, а дзе госці, артысты. Усе спявалі! А потым да раніцы пелі беларускія народныя песні... Во які быў канцэрт! Спрабаваў солтыс навесці парадак. Ды дзе там!

# І ДРЭВА, І МЕТАЛ, І ВЕРШ...



Уладзімір Барысавіч Зянько ў майстэрні.

Гэта, несумненна, паэзія, няхай сабе і не вышэйшай пробы.

Пісьмы прысылаў у рэдакцыю Уладзімір Зянько з Маладзечна...

Нядаўна, будучы ў Маладзечне, я адшукаў дом № 25 па 1-м Сухім завулку. Гаспадар—невысокага росту, хударлявы, — усміхнуўся жывымі, хоць і стомленымі вачыма:

— Чым абавязаны такімі турбацыямі?

Але ў ягоным голасе—глухаватым, мяккім—не было чутно найгранасці альбо іроніі: адна прастата і шчырасць.

Неўзабаве мы разгаварыліся.

Уладзіміру Барысавічу—сорак чатыры. Нарадзіўся ў вёсцы Селяўцы Валожынскага раёна. Дзяцінства яго было нялёгкае—звычайнае для былой заходнебеларускай вёскі хлапечае дзяцінства, з самых малых гадоў пазначанае пастушкоўскай торбай. А тут яшчэ памёр, надарваўшыся ў лесе, бацька, маці прыняла прымака. Добра, што айчым аказаўся харошым, спагадлівым чалавекам, шкадаваў, поруч са сваімі дзецьмі, і малога Уладзіка. Нават нейк здолеў выпраўляць яго чатыры гады ў польскую школку. На гэтым навука для хлопца і закончылася, калі не лічыць таго, што ў саракавым годзе пабегаў некалькі тыдняў у школу для дарослых (ужо ў савецкую), каб асвоіць наш шрыфт, навучыцца чытаць і пісаць на роднай мове.

Пасля былі гады вайны. У сорак чацвёртым, пасля вызвалення, апрануў шынель і не скідаў яго аж да пяцідзесятага. Дэмабілізаваўшыся, прыйшоў у Маладзечанскае чыгуначнае дэпо, сеў за руль ужо тады старэнькай дабітай палутаркі—у арміі набыў спецыяльнасць шафёра,—і васемнаццаць гадоў не развітваўся з ёй. Сумленна служыла бабулька-палутарка старannamу, руплівamу гаспадару. Пэўна, усе яе сяброўкі даўно пайшлі на заслужаны спачын, а яна ўсё сноўдалася па вуліцах Маладзечна, аж пакуль гады два назад не здарылася з яе гаспадаром няшчасце—адхапіла Уладзіміру Барысавічу пальцы на руцэ. Вось тады і спісалі палутарку, а яе гаспадар перайшоў у дэпоўскія майстэрні — слясарыць. Бо хоць і пакалечаныя, але залатыя рукі мае Уладзімір Барысавіч, здатныя і да металу, і да дрэва. Доказ таму—пяты працоўны разрад, які нядаўна прысвоены слесару Уладзіміру Зянько. А яшчэ—на свае вочы бачыў дом і ўсё ў доме, зробленыя яго ўласнымі рукамі, бачыў у двары самаходную трохколку, сабраную, скляпаную ім нямаведама з чаго.

Ну, а вершы?

— Гэта хутчэй мой адпачынак,—кажа Уладзімір Барысавіч.

Ён дастае з шафкі сшытак у чорнай вокладцы і пачынае чытаць:

Радно сівое хмар халодных
Парвалася, сплыло у даль.
І рэжа бусел—госць прылётны —
Блакіту чыстага крышталь.

Вятрыска ласкавым павевам
Азваўся з цёплай стараны.
Вясна чароўным сваім спевам
Зімовыя прагнала сны.

І днём жаданым дожджык росны
Штурхне з нябёс вясновы гром.
Маланка росчырк свой дзівосны
Агністым правядзе пяром.

Я слухаю і міжволі лаўлю сябе на думцы, што захапляюся і здзіўляюся. Так, вершы цяпер пішуць многія. Як сцвярджаў паэт—палова Расіі. І ў тым, што студэнт універсітэта даволі прыстойна зарыфмоўвае нейкі абразок альбо думку, няма нічога дзіўнага. Тут жа штосьці іншае. Адкуль, якім чынам у душы гэтага сціплага, адвечнага працаўніка, чалавека з пачатковай, па сутнасці, адукацыяй узнікае, нараджаецца паэзія? Пэўна ж, прыгожай, паэтычнай павінна быць гэтая душа!

Паспрабаваў спытаць пра гэта—от так прама—ва Уладзіміра Барысавіча. Ён бянтэжыцца, маўчыць, потым гаворыць:

— Што сказаць, дык і сам не ведаю. Калі шчыра, дык... От нешта як быццам зашчыміць, заспявае ў душы. Ці то радок які ўкінецца, ці то думка, настрой прыклеіцца. Ходзіш, робіш што-небудзь, а яно з галавы не выходзіць. І адчуваю, што не магу я таго інакш выказаць, як у вершы. Аж пакуль не ўлучыш хвіліны (часцей позна ўвечары, калі з клопатамі скончыш, калі жонка і дзеці палягуць спаць) і не сядзеш за паперу. І радасна, калі на паперы нешта тое атрымліваецца, што ўнутры трапяталася... Вось, нядаўна напісалася. Вячэрчі восеньскі матыў:

Вечар зямлю атуляе,
Падае долу лісцё.
Песня ў душы ўзнікае
Ціхая, як забыццё.
Першыя ласкі кахання,

Позірк жаданых вачэй,
Салодкая горыч растання,
Мроі бяссонных начэй,
Скрыпкі чароўнай напевы,
Гук абарванай струны,
Ціхага ветру павевы,
Радасці першае сны...

Вечар зямлю атуляе,
Падае сумна лісцё.
Песня ў душы замірае,
Кволае сэрца біццё.

Зрэдзь часу, як я ўжо гаварыў, Уладзімір Барысавіч пасылае свае вершы ў рэдакцыі газет. І, здаецца мне, не крыўдзіцца, калі атрымлівае адмоўныя адказы. Толькі, бадай, аднойчы, калі прачытаў адказ з крыўднымі папрокамі ў непісьменнасці, у яго вырваліся горкія радкі:

Вінавaціш мяне, што я кепска пішу,
Слабавата граматыку знаю,
Зверху бачыш ты ўсё, ды не бачыш
душу,
Што па частках ў радок я ўкладаю.
Хіба ж я вінават, што мне доля
калісь
Замест маці ды мачыхай стала,
Што балючай рукою па скуры маёй
Курс граматыкі іншы пісала...

Можа быць, і гэтыя радкі таксама падштурхнулі мяне расказаць пра Уладзіміра Барысавіча Зянько—сціплага, сумленнага працаўніка, чалавека, якому паслухмяны і метал, і дрэва, і верш. Пра паэта ў працы і ў жыцці.

**Мікола ГІЛЬ.**

САМАДЗЕЙНАЕ МАСТАЦТВА. СВЯТЫ І БУДНІ

# ПЕСНЯ НЕ ЛЮБІЦЬ КАНІКУЛ

Праўда, нікога не пасадзілі. Усё закрылі, быццам не было ніякага канцэрта. Маўляў, п'яныя мужыкі адзначалі рэлігійнае свята...

У пакой зазірнула рухавая кабета ў квяцістай хусцінцы. За ёй увайшлі яшчэ некалькі чалавек. Успаміны працягваліся. Зайшла гаворка пра тое, як ездзілі пасля вайны ў Баранавічы на абласны агляд. Гэта было першае такое адказнае выступленне, свайго роду агледзіны.

Дэбют прайшоў вельмі ўдала. Дзяляціцкі хор спадабаўся ўсім. Знайшоўся добры «сват» на агледзінах — Генадзь Іванавіч Цітовіч, зараз вядомы дзеяч культуры, народны артыст СССР. Генадзь Іванавіч стаў часта наязджаць у Дзяляцічы. Ён праводзіў рэпетыцыі, запісваў і апрацоўваў народныя песні. А іх жа ў гэтай наднёманскай вёсцы столькі, што слухай— не пераслухаеш.

Праз нейкі час дзяляціцкія спевакі выступалі ў Мінску, а потым і ў Маскве. І ўсюды — поспех.

— То Цітовіч навучыў нас спяваць у капэле, — успамінае Марыя Антонаўна Чэртка. — Спяваць аднаму — адно, а ў капэле — зусім іншае. Трэба і сябе чуць, і суседзяў. Васьмігалоссе, не хаханькі... Во, не збіраліся цэлае лета, дык і страшнавата ісці на рэпетыцыю. Ці патраплю? Мо развучылася... І нешта ж нас мала сёння? Ужо ж дзевяць гадзін... Паўтарылі б што-небудзь... — Марыя Антонаўна зірнула на дырэктара Дома культуры Лідзію Бушма, на кіраўніка капэлы Марыю Дароніну, таропка неяк папраўіла сваю квяцістую хусцінку і змоўкла.

Дырэктар зноў выйшла ў калідор і неўзабаве вярнулася.

— Яшчэ там ёсць чалавек пяць, дык хочуць у кіно. Хай, мабыць, ідуць! якая рэпетыцыя, калі і чвэрці ўдзельнікаў няма...

— Чаму ж не сабраліся?—раздумвала Дароніна. — Можа, не ўсе ведалі?

— Усім перадалі. Я сама многіх бачыла, — задумена прамовіла Лідзія Бушма. — Трэба пачакаць трохі... Пайду збіраць людзей.

Дырэктар Дома культуры і кіраўнік капэлы пайшлі. Мы засталіся чакаць...

Людзі яшчэ бульбу не выкапалі. Мая таксама стаіць... Але ж вечарам рабіць не будзеш. Маглі б прыйсці, —парушыла маўчанне Марыя Антонаўна Чэртка.

— Бульба не вінаватая. Што — я не рабіў сёння ў калгасе, або Міхась Іванавіч? Рабілі. А прыйшлі! — пачаў гаворку Клімовіч. — Скажы лепш, адбілі ахвоту ў людзей. Па паўгода не збіраемся... Затое перад аглядам дзень у дзень рэпетыцыя. Да хрыпаты...

— Так, так. Праўду кажаш, Іване. На ўколах трымаемся. За месяц да агляду пачынаецца — давай-давай. А з наскоку не возьмеш. Не атрымліваецца. Не той гук. Тут і нервы, і псіхіка. І ніякага настрою. А што за спевы без настрою? Прымусоўка. А я хачу спяваць ад радасці, каб ад душы гэта ішло. Тым больш, што магчыма гэта. Трэба займацца круглы год. Нават летам. Хоць адзін раз у месяц, але можна ж сабрацца... — Шунько перавёў дух, усміхнуўся. — Во, хоць выгаварыўся... Бачыце здымак? Зрабілі яго зімой, калі мы выступалі ў Гродне на абласным аглядзе. Прайшла вясна, мінула лета, надышла восень. А мы ні разу ў такім складзе не збіраліся. Хаця і тут нас не многа. Менш сарака. Некалькі гадоў назад было шэсцьдзесят. Дарэчы, і здымка ў нас такога няма. А можна было б зрабіць кожнаму на ўспамін.

Рэпетыцыя ў той вечар так і не адбылася.

Гаварылі мне ў Дзяляцічах, што зацішша пачалося пасля абласнога агляду. Рыхтаваліся да яго старанна, «штурмам», выступілі някепска, але ў Мінск не папалі. Гэтая асечка расчаравала некаторых удзельнікаў, якія прывыклі быць першымі, трохі «падпаліла» крылы маладому кіраўніку капэлы. Дароніна нават збіралася падаць «у адстаўку».

Тут нельга не сказаць пра Марыю Іванаўну Дароніну.

Трынаццацігадовай дзяўчынкай пачала Марыя хадзіць на рэпетыцыі. Выступаць на сцэне не дазвалялі. «Куды ты, малеча! Хаця, калі паставіць на табурэцік, дык магла б спяваць нараўне з дарослымі»,—жартавалі некаторыя. Але Марыя ўсё роўна хадзіла. У капэле спявалі яе маці і бацька. І дзяўчынцы не хацелася адставаць ад іх. Ёй вельмі падабалася, як кіраўнік, а ім быў тады Г. Цітовіч, праводзіць рэпетыцыі.

— Глядзі, дзяўчо, глядзі. Мо з цягам часу сама будзеш кіраваць. Ты ж — дачка капэлы, — усміхаўся Генадзь Іванавіч.

Гады праз тры Марыя стала адной з самых актыўных удзельніц капэлы. Любоў да песні прывяла яе ў музычнае вучылішча. А прыязджала дадому—бегла на рэпетыцыі. Кіраўнік калектыву Павел Радаліцкі, вялікі энтузіяст сваёй справы, ставіўся да яе чула і ўважліва.

Пасля сканчэння вучылішча Марыя пачала працаваць у Навагрудскай музычнай школе. Неяк яе выклікалі ў аддзел культуры.

— Ці не маглі б вы ўжо ўзяць шэфства над капэлай?

Доўга Марыя не адважвалася. Разумела: складана кіраваць такім калектывам! Урэшце згадзілася. Леташнюю зіму часцяком ездзіла ў Дзяляцічы амаль за трыццаць кіламетраў ад райцэнтра. Да поўначы рэпетыцыя, а потым неяк жа трэба дабірацца назад, бо раніцай на заняткі. Здаралася, што не паспявала на рэпетыцыі, і людзі не заўсёды збіраліся. Было, было ўсякага...

І ўсё ж Марыя Іванаўна Дароніна— здольны хормайстар (я выказваю думку спецыялістаў). Але трэба ёй дапамагчы, зацікавіць матэрыяльна. Нельга дапусціць, каб адзін з цікавейшых самадзейных калектываў рэспублікі застаўся без кіраўніка.

Далей. Ёсць у Дзяляцічах сельскі Дом культуры, а ў ім дырэктар, мастацкі кіраўнік, ёсць загадчык сельскай бібліятэкі. Яны маглі б, ды і павінны больш клапаціцца пра капэлу, бо іншых мастацкіх калектываў тут, па сутнасці, няма.

Гутарыў я і са старшынёй мясцовага калгаса Яўгенам Сцяпанавічам Аляшкевічам. Некалі ён быў актыўным удзельнікам капэлы, але ў апошнія гады перастаў наведваць рэпетыцыі.

— Хто яго ведае, як тут паспяваць. То нарады, то пасяджэнні..., — уздыхнуў старшыня. — Але думаю зноў стаць артыстам. Сумна без песень...

Што ж, асабісты прыклад — лепшы спосаб агітацыі.

Вярнуўшыся з камандзіроўкі, я пазваніў Генадзю Іванавічу Цітовічу, расказаў аб становішчы капэлы.

— Абавязкова з'езджу ў Дзяляцічы. Па старой памяці з задавальненнем папрацую з капэлай, — запэўніў Генадзь Іванавіч.

Карацей кажучы, можна спадзявацца, што канікулы для дзяляціцкіх харыстаў хутка скончацца.

Пра іх можна было б нават і не пісаць, каб не была такая з'ява масавай. Многія калектывы хапаюцца за работу толькі перад святамі: паспешліва рыхтуюць канцэрт, рэпеціруюць дзень і ноч. А потым зноў наступае зацішша на многія месяцы.

Такія адносіны, такі падыход да мастацкай самадзейнасці вельмі шкодзяць ёй, падсякаюць яе карэнні. Не дзеля аглядаў, не дзеля святочных канцэртаў існуе мастацкая самадзейнасць. Яе прызначэнне намнога шырэйшае і важнае: развіваць здольнасці людзей, выхоўваць у іх лепшыя чалавечыя якасці, дапамагаць разумна і карысна бавіць вольны час, атрымліваць радасць і задавальненне. Задавальненне не толькі ад таго, што заваёвана першае месца на аглядзе, а радасць і задавальненне ад таго, што сабраліся вечарам і паспявалі хорам песні, развучылі новую. Без нервовасці і гарачкі.

...Ужо каторы раз гляджу на здымак, які далі мне ў аддзеле культуры: заказвалі для стэнда. А, сапраўды, чаму б не зрабіць некалькі дзесяткаў картак — кожнаму на ўспамін? Да гэтага не дадумаліся... Бачу на здымку знаёмыя твары. Па-святочнаму ўрачыстыя, натхнёныя. Вочы харыстаў скіраваны на дырыжора Марыю Дароніну.

Спявае Дзяляціцкая народная харавая капэла. Здаецца, вось-вось пачуецца знаёмая песня:

Люблю наш край, старонку гэту,
Дзе я радзілася й расла...

Песня, якая будзе вечна жыць, як жыве ў народзе ненатольная прага прыгажосці і харaства. І хочацца верыць, што чысты стройны голас дзяляціцкіх спевакоў неўзабаве зноў загучыць на поўныя грудзі.

**Л. ЛЯВОНАЎ,**

спец. кар. «Літаратуры і мастацтва».

Навагрудскі раён.

В. РУДАЎ

# ЧОРНАЯ ГАНЬЧА



УРЫВАК З РАМАНА

**Ён доўга пісаўся, новы раман пра маіх баявых сяброў-пагранічнікаў, разам з якімі многа гадоў мераў пагранічныя сцежкі... Кніга — пра пагранічнікаў Беларусі. У цэнтры апавядання — начальнік заставы Сураў, яго складанае жыццё і цяжкая служба. Прапаную чытачам раздзел з кнігі:**

**Аўтар.**



Мал. Я. ГОЛЬБЫ.

ВЯРТАЮЧЫСЯ З ПАВЕРКІ, Сураў убачыў на кантрольна-ўзаранай паласе ланцужок лісіных слядоў. Рыжая прайшлася па-гаспадарску нетаропка, пакінуўшы на мяккім ворыве глыбокія адбіткі лап.

Успомнілася Вера ў дзень ад'езду. Апранутая па-дарожнаму ў старэнькую, некалісь карычневую, цяпер выгаралую, у плямах балонню і паношаныя, таксама некалісь модныя туфлі на абцасіках-шпільках, яна трымала ў адной руцэ чамадан, у другой — Мішкаў цацачны аўтамат. Каля ганка вурчаў і ўздрыгваў газік, а Мішка, сеўшы побач я шафёрам хныкаў:

— Вось яшчэ!... Едзем, мамка. Ну, мамачка.

Вера ступіла да дзвярэй, спынілася. На яе прыпудраным твары былі яшчэ сляды нядаўніх слёз. І слёзы звінелі ў яе голасе, калі яна падняла на Сурава вочы з яркажоўтымі на тую хвіліну зрэнкамі:

— Няўжо табе ўсё роўна? Мы ж зараз паедзем!... Зусім. Назаўсёды.

На яе было цяжка глядзець. Яна чакала ўгавораў, просьбаў, спадзявалася, што ён пачне яе адгаворваць, як аднаго разу, калі паслухаўшыся генерала Міхеева, зрабіў гэта на пачатку іх сумеснага жыцця.

— Ты сама гэтага хацела, — сказаў ён ёй коратка.

— Але я не магу тут жыць... Не магу! Зразумееш ты калі-небудзь?...

— Тысячы іншых могуць... Верачка, мы з табою шмат гаварылі пра гэта. Няма ахвоты паўтарацца.

Ён наперад ведаў яе жэсты, міміку, фразы, якія яна зараз скажа, наўмысна расцягваючы словы і ўкладваючы ў іх усю іронію, на якую толькі здольна.

У Веры пасмешліва выгнулася левае брыво:

— І гэта ўсё, што ты можаш нам сказаць!

— Каму — нам?

— Хаця б мне. І твайму сыну.

Ён адказаў не адразу. Працягнуў руку, каб узяць чамадан, і роўным голасам, якім гаварыў, стрымліваючы гнеў, сказаў, гледзячы паверх яе галавы, павязанай белай касынкай:

— Я цябе не гнаў. Заставайся.

Спачатку ўздрыгнулі вугалкі касынкі пад падбародкам. Сураву здалося, а можа і праўда ў вачах Веры мільгнуў сапраўдны сполах. Потым у шчырым недаўменні ўзляцелі і адразу апалі бровы. Твар яе ў злосці стаў цьмяны і непрыгожы.

— Вось яно як! — сказала яна глухім голасам. — Ён нам, бачыце, ласку робіць, дабрачыннік наш. — І раптам істэрычна закрычала:

— Ненавіджу! Усіх: праклятае закуцце гэта, дурную рамантыку. І твайго Голава. Можаш яму перадаць.

Выскачыла на ганак. І паехала.

Звычайна ў запальчывасці, а з Верай апошнім часам гэта бывала часта, яна папракала яго дружбай з начальнікам пагранічнага атрада Голавым, папракала яго такім тонам, нібы дружба з падпалкоўнікам ганьбіла Сурава, а заадно і яе, Веру.

З Голавым Сурава звязвала даўняе знаёмства: Юрый Сураў, курсант-выпускнік пагранічнага вучылішча, праводзіў апошнюю сваю стажыроўку на марской заставе, якою ў той час камандаваў старшы лейтэнант Голаў. І толькі. Рассталіся яны ворагамі, і ўзаемная непрыязнь з гадамі не прайшла.

Застава, на якой Сураў праходзіў стажыроўку, была за горадам, у курортным раёне з нярускай назвай.

Аднойчы выдаўся вольны ад заняткаў нядзельны дзень. На спартыўнай пляцоўцы толькі пачаўся валейбольны паядынак, калі за Юрыем прыйшоў дзяжурны.

— Старшы лейтэнант выклікаюць, — далажыў ён, абыякава ўскінуўшы далонь да казырка новай зялёнай фуражкі.

Старшы лейтэнант Голаў у штанах навыпуск і форменнай блузе павітаўся з Юрыем кіўком галавы, акінуў яго хуткім і чэпкім позіркам.

— Падыходзіць, — сказаў ён, відаць, сам сабе.

Дзяжурны стаяў ля дзвярэй, чакаючы новых распараджэнняў. Сураў адзначыў не толькі маладзецкі выгляд салдата, але і снежна-белы рубчык каўнерыка на адпрасаваным мундзіры, прамяністую пражку паяснога рэмня і начышчаныя да яркага бляску боты.

Голаў, адчыніўшы дзверцы сейфа, павярнуўся да дзяжурнага, як і Сураў, спыніў на ім пільны погляд.

— Зараз чатырнаццаць трыццаць... тры. — Старшы лейтэнант падняў руку з гадзіннікам. — Перадаць намесніку: вярнуся да дваццаці адной. Са стажорам паедзем ў дружыну. Ясна?

— Вельмі нават.

— Вольна!

— Так, вольна! — Дзяжурны ляснуў абцасамі, крутнуўся, як на шарнірах. І выйшаў.

Голаў правёў яго позіркам:

— Арол!

Сураў, які прывык да строгіх правілаў ваеннага вучылішча, з нейкай варожасцю паглядзеў у спіну салдата. Уразіла нестатутнае «вельмі нават», а яшчэ больш тое, што старшы лейтэнант не рэагаваў на такую вольнасць. За час стажыроўкі Сураў неаднойчы сутыкаўся з адступленнямі ад інструкцый і статутаў, якія дазваляў сабе начальнік заставы. Нешта ў Голаве адначасова і вабіла, і адштурхоўвала. У ім была і шырокая натура і дробязны разлік, прастата і манернасць, панібрацтва з падначаленымі і неапраўданая прыдзірлівасць.

Тым часам Голаў дастаў з сейфа некалькі трохрублёвак, пералічыў і дзве паклаў назад у патайное аддзяленне, якое замыкалася асобным ключом.

— Падскурныя — падміргнуў ён, хаваючы грошы ў кішэню. — На ўсякі пажарны. — Замкнуў дзверцы сейфа, надзеў фуражку, крышку ссунуўшы яе набакір. — Пайшлі, стажор. Раз да Голава трапіў, ён табе ўсё пакажа. На тым стаім.

Юрыя не здзівіла што старшы лейтэнант гаварыў пра сябе ў трэцяй асобе — за час стажыроўкі і такое чуў.

Спачатку ехалі ў пустым трамваі, які з грукатам каціў па доўгім Пралетарскім бульвары міма санаторыяў, схаваных за высокімі платамі ў гушчыні дрэў, даехалі да вакзала, перaселі ў другі, цяпер ужо да адказу набіты вагон, у якім і стаяць было цяжка, а мінут праз сорак, потныя і стомленыя, высадзіліся ля далёкага пляжа. Голаў сказаў Юрыю пачакаць, а сам хутка пайшоў да «паплаўка», дзе стаяла за півам доўгая чарга. Адтуль даносіўся гул, звон пасуды, смех. Было горача і шумна.

Голаў прынёс у кардоннай скрынцы дзесятак бутэлек піва, сунуў Юрыю ў рукі:

— Трымай, стажор. Будзем культурна бавіць час.

На пляжы не было дзе прыткнуцца. Але толькі Голаў паявіўся ў сваёй зялёнай фуражцы, як адразу пачуліся галасы:

— Гола-аў!...

— Аляксей Пятровіч, да нас.

— Сюды-ы-ы...

— Лёша! — перакрычаў усіх дзявочы звонкі голас.

Голаў, усміхаючыся, пайшоў на галасы, лавіруючы, каб не наступіць на каго-небудзь. Іх абступілі шумныя загарэлыя хлопцы і дзяўчаты. Неўзабаве Юрый з усімі перазнаёміўся, хаця з усіх імёнаў запомніў толькі імя чорненькай, коратка падстрыжанай дзяўчыны, сарамлівай, крыху нават хмураватай з выгляду. Яе звалі Верай. Ёй Голаў аддаваў найбольш увагі...

Калі па зыходзе ночы вяртаешся з граніцы дамоў, крышку гудуць стомленыя ногі, трошачкі круціцца галава, у ёй шуміць і пазваньвае, а сам ты, захмялелы ад напоенага густым настоем траў халаднаватага паветра, дыхаеш на поўныя грудзі і ніяк не надыхаешся. На досвітку пахі траў слабнуць. І тады цябе абвалоквае водар расы — тонкі, ледзь улоўны, яго хіба толькі і ўловіш у нерухомай цішыні пагранічча, таму што ўвесь ты ў расе, нібы прырода шчодра выкупала цябе, плацячы за нялёгкую службу.

Ідзеш і ў такія хвіліны думаеш пра кубак гарачага чаю, загадзя цешышся кароткім перакурам у прадымленай сушылцы, дзе ад развешаных плашчоў і куртак пахне лесам, тытунём і салдацкім потам, чуеш храбусценне матраца, на якім выцягнешся на ўсю даўжыню стомленага цела і адразу, толькі прытуліўшыся галавой да цвёрдай падушкі, правалішся, бязважкі, у бездань.

Але часам, здараецца, непаслухмяная памяць такое падсуне, што і курыць не захочаш, і сон адляціць.

...Тады, раззлаваўшыся, ён не падумаў пра магчымыя вынікі. З усёй сілы стукнуў Голава пад лыжачку менавіта тым прыёмам, якому той яго навучыў. Вера стаяла збоку, за камянямі, усхліпвала, прытрымліваючы рукой падраную на грудзях сукенку. Было яшчэ светла, прыглушана далятаў гоман люднага пляжа. Тут, сярод каменняў, цішыню парушалі Верыны ўсхліпы.

Юрый, ні разу не азірнуўшыся на старшага лейтэнанта, падышоў да дзяўчыны, дастаў з фуражкі іголку з ніткай, падаў ёй.

— Што вы! — Вера, не зразумеўшы жэсту, спалохана адхіснулася, нібы баронячыся, працягнула наперад абедзьве рукі, забыўшыся на падраную сукенку.

Юрый убачыў яе маленькія грудзі і пачырванеў да самых вушэй.

— Прабачце, — замармытаў ён, адыходзячы ўбок. І нават не заўважыў, што Голаў пайшоў, не сказаўшы нічога.

Праводзячы Веру, ён паслухмяна ішоў за ёю праз падобныя адзін на адзін гарадскія дворыкі з цёмнымі падваротнямі, дворыкі, выкладзеныя гладкімі каменнымі плітамі, дзе незразумела пышна рос вінаград і ярка чырванелі кветкі. Забаўляліся дзеці, перагаворваліся старыя жанчыны, седзячы кожная ля сваіх дзвярэй на нізкім услончыку, пахла смажанымі бычкамі, арбузамі. Вера пазбягала людных вуліц, і Юрый думаў, што калі назад давядзецца ісці аднаму, ён абавязкова заблудзіцца ў лабірынце двароў, спускаў і вузкіх каменных лесвіц, якія каскадам спускаліся да прымор'я.

У кватэры, куды яны, нарэшце, прыйшлі, пахла кветкамі і свежа пафарбаванай падлогай. У паўцёмным пакоі на круглым стале, засланым зялёным плюшавым абрусам, стаяў букет яркачырвоных руж. Вера, не спыняючыся, правяла Юрыя ў наступны, вельмі светлы, пуставаты пакой, дзе, акрамя вузкай канапкі і этажэркі з кнігамі, было адно крэсла і маленькі столік, таксама завалены кнігамі. Затое сцены стракацелі мноствам фарб.

— Спробы, — абыякава сказала Вера. І дадала: — Так, дробязі: эцюды, накіды. — Паказала Юрыю на крэсла, выйшла.

На крэсла Юрый паклаў фуражку. У пакоі было прахалодна. Пакуль не было Веры, ён пачаў разглядаць малюнкі. Адны яму падабаліся прастатой і сціпласцю фарб, другія — не. Сярод некалькіх накідаў выдзяляўся пісаны маслянымі фарбамі, амаль закончаны партрэт старога.

Дзіўны партрэт. Стары з капной нечасаных валасоў, безбароды, з кароткімі вусамі пад вялікім гарбатым носам. Невялікія вострыя вочкі прыжмураны, нібы ў іх затаілася з'едлівасць.

Юрый неадрыўна глядзеў у твар старога і не мог зразумець, што ў ім прыцягвае ўвагу. Ён не заўважыў, што Вера, вярнуўшыся ў пакой, назірае за ім, чакае, што ён скажа.

— Добра, — сказаў ён, счакаўшы. — Проста здорава!

— Праўда?

Ён павярнуўся на яе голас, крыху збянтэжыўся:

— Я, вядома, не мастак. Але стары моцны. Ваш бацька?

Вера засмяялася, нават рукамі ўспляснула:

— Што вы, Юра! Гэта мой дзед. Я яго намалявала, калі была яшчэ вось такою. — Яна падняла руку на ўзровень століка. — Яшчэ ў сёмы клас хадзіла. — Паглядзела Юрыю ў вочы і ўздыхнула. — Дзядуля даўно памёр. Пад Адэсай, у Дафінаўцы ў яго быў свой домік. Туды на лета мой тата ездзіць. Ён таксама мастак. Наступны раз прыйдзеце, я вас пазнаёмлю.

Хацелася адказаць, што наступнага разу не будзе, таму што да вяртання ў вучылішча засталося тры дні, там — назначэнне на новае месца службы.

Вера, не заўважаючы збянтэжанасці свайго госця, расказвала пра бацьку, сябровак, шкадавала, што закончана вучоба ў мастацкім вучылішчы і цяпер давядзецца працаваць.

— Праўда, гэта сумна — проста працаваць? — Яна засмяялася: — Зарабляць на пракорм. Якое недарэчнае слова, праўда? І заставацца ў пыльным горадзе на ўвесь час — сумна. Праўда?

Ён не ведаў, на якую з яе «праўд» адказаць, а Вера, здавалася, і не чакала тлумачэнняў — ёй добра было з ім, дужым і мужным, якім яна, пэўна, намалявала яго сваім уяўленнем, калі ён абараніў яе ад прыставанняў надпітага старшага лейтэнанта. Яна апамяталася толькі тады, калі ён намерыўся ісці, усхапілася з канапы, паправіла на сабе сукенку.

— Загаварыла я вас. Прабачце, — Вера дакранулася да яго рукі.

— Не, чаму ж... Было вельмі добра, — прамармытаў ён, успыхнуўшы ад яе мімалётнага дотыку.

— Заўтра прыходзьце проста сюды, — запрасіла Вера і паправіла валасы. — Можа, тата прыедзе. Буду вас чакаць.

— Не ведаю нават. Наўрад.

— Служба, разумею, — Вера сумна ўсміхнулася.

Ён падумаў, ці трэба казаць ёй праўду: Вера так даверліва глядзела яму проста ў вочы. Яны нібы свяціліся ў паўзмроку надвячорка.

— Паслязаўтра еду адгэтуль.

— Надоўга?

— Зусім. Спярша ў вучылішча, пасля на граніцу.

— І больш ніколі, ніколі сюды не прыедзеце? — апусціўшы вочы, Вера круціла пражку пояса на сваёй сукенцы. Ён бачыў яе нервовыя пальцы, і яму захацелася ўзяць іх у сваю далонь, лёгка сціснуць....

— Вам хочацца, каб я зноў прыехаў?...

Сураў ішоў уздоўж кантрольна-ўзаранай паласы.

Пра жонку ён думаў без злосці і без асаблівага смутку. Першыя паўгода агартала туга, асабліва ў дні, калі прыходзілі пісьмы. Вера пісала часта і многа, настойвала на дэмабілізацыі, звала да сябе. Ён адказваў ёй радзей, чым яна пісала яму, адказваў скупа. Пра дэмабілізацыю і гаворкі быць не магло, ён так і адказаў Веры. Цяпер пісьмы прыходзілі раз у месяц, кароткія і сухія — усё пра Мішку. Вера пісала, што сын кепска пераносіць гарачыню, пахудзеў і просіцца на заставу. А ў канцы Мішкавай рукой надрапана: «Татачка прыжай».

Сураў перасунуў на бок пісталет, які апоўз на жывот, і пайшоў шпарчэй. Займалася жнівеньская раніца. Край дазорнай дарогі ўздоўж кантрольна-ўзаранай паласы зарос высокай травой. Сёння ж трэба навесці тут парадак, падумалася Сураву. І са здзіўленнем адзначыў, як хутка вымахала трава — амаль у пояс. А зусім жа нядаўна касілі.

За паваротам, ля гарэлага дуба, Сураў спыніўся: дзікі ўзаралі паласу пачварнымі чорнымі варонкамі. Управы няма на гэтых дзікоў, мала які дзень абыдзецца без таго, каб не даводзілася пасля іх баранаваць. І яшчэ заўважыў Сураў падгнілы слупок на кладцы праз ручай, які прыйдзецца мяняць, а заадно ўжо і дошкі.

Сцежка падымалася на касагор: яго вяршыня, нібы падфарбаваная, свяцілася аранжавым святлом — па той бок касагора ўзыходзіла сонца. Калі Сураў узышоў на вяршыню, аж зажмурыў вочы: сноп яркіх прамянёў ударыў у твар. Адгэтуль, з вяршыні, Сураў убачыў правы бок свайго ўчастка да самага стыку з суседняй заставай. Лес да гарызонта стаяў зубчатай сцяной, а паўз яго, як вартавыя, пагранічныя слупы: чырвона-зялёныя — свае і бела-чырвоныя — суседзяў. Драцяная агароджа паабапал паласы то ўзбягала на ўзгоркі, то спускалася ў далінкі, часам агінаючы выступы лесу і парослыя вольхай і бярозай яры. У адным з іх, самым глыбокім, ляжаў белы туман, туды яшчэ не паспела зазірнуць сонца і таму дрэвы, што ўздымаліся з дна яго, здавалася, віселі ў паветры.

Сураў так добра вывучыў участак граніцы, што мог прайсці па ім з завязанымі вачыма — у любое надвор'е, у самую глухую непагодлівую ноч, як і яго салдаты, якія добра арыентаваліся на мясцовасці, ліхтаром карыстаўся ў крайніх выпадках, калі даводзілася выяўляць сляды.

І тым не меней, калі б Сураў ні вяртаўся з граніцы, кожны раз, спыняючыся на вяршыні пагорка і азіраючы з вышыні свой участак, як бы нанава адкрываў сабе чароўнасць краю, у які прыехаў з Туркменіі паўтара года назад. Туркменія з яе суровымі фарбамі мела сваю прыгажосць, была па-свойму прывабная, там і зараз жыла яго маці, Настасся Сяргееўна, засталіся сябры і знаёмыя. Але пасля бязлесых гор Капет-Дага і гарачыні пустыні ён не мог налюбавацца зялёнай Беларуссю, яе лясамі і рэкамі, яе ціхімі блакітнымі азёрамі, мяккім кліматам. Ён не разумеў, як магла Вера не палюбіць гэты край.

Сураў вяртаўся дамоў, адчуваючы ва ўсім целе прыемную стому. З другога боку схіла ён убачыў заставу і дах доміка, які ён займаў удваіх са старшыною Холадам. Над домам лёталі галубы — іх для Мішкі яшчэ пазалетась завёў Бутэнка, маларослы няўклюдны салдат родам з Чарнігаўшчыны. Галубоў развялося многа, і старшына скардзіўся, што галубіны стогн не даваў яму спаць.

Да ад'езду Веры Сураў на паўдарозе да заставы ўключаўся ў тэлефонную лінію, высвятляў у дзяжурнага абстаноўку і, калі ўсё было ў парадку, не заходзячы ў канцылярыю, ішоў да сябе на кватэру, не трацячы часу — паспаць некалькі гадзін дома.

Без Веры ўсё змянілася.

Абмінуўшы спортгарадок, прайшоў праз весніцы за высокую агароджу заставы і хацеў быў спрамаваць у канцылярыю, дзе цяпер адпачываў, вяртаючыся з граніцы. Глянуў на домік, проста так, механічна. І абмёр, спыніўшыся. У яго перасохла ў роце, і па спіне прабег халадок. З ім заўсёды так бывала ў мінуты хвалявання. Перад ганкам стаяла карычневая «Волга» Голава, а на пярэднім месцы, прываліўшыся галавой да спінкі, спаў шафёр.

Сурава, аднак, усхваляваў не прыезд Голава. Ён убачыў іншае, і ў яго часта-часта закалацілася сэрца: вокны кватэры былі насцеж адчынены, на вяроўцы, нацягнутай ад стойкі ганка да старой грушы перад домам, сушыліся яго, Сурава, адзенне і хатнія рэчы — ватная коўдра, два кіцелі і шынель. Яшчэ нейкія рэчы былі развешаны пад паветкай ганка, але Сурава яны не цікавілі, як, зрэшты, і ўся астатняя яго маёмасць.

«Вера прыехала!» — апякла думка.

Яму стала горача. Ён, звычайна спакойны, а, як казала Вера, нават флегматычны, «як каракумскі вярблюд», раптам разгубіўся. Нечаканае вяртанне, «Волга» — не падобна на разважлівую Веру: яна б тэлеграмай папярэдзіла, а ўжо да Голава з просьбай нізавошта, яна яго трываць не магла.

Разгубленасць была нядоўгай. Ад весніц, дзе ён спыніўся, да дома было роўна сто пяць крокаў. Сто пяць «пагранічным крокам» па выкладзенай цэглай і пасыпанай жоўтым пяском дарожцы. Звычайна адлегласць пакрывалася за паўтары няспешныя мінуты. Сураў прабег іх за пятнаццаць секунд і з дрыготкім сэрцам узбег на ганак, праскочыў у пярэднюю. І ўбачыў сівую галаву маці.

Яна павярнулася да яго, выцерла рукі фартухом, пайшла насустрач, хаваючы шчаслівую ўсмешку.

— Дзень добры, Юрачка. — Павіталася такім тонам, нібы расставалася з сынам толькі ўчора. І пацалавала ў шчаку.

Сураў абняў яе і, адступіўшы, хацеў спытаць, чаму раптам яна прыехала, не папярэдзіўшы. Маці сказала:

— Што мяне сустракаць — я не генерал. Мыйся, снеданне гатова.

Плёскаючыся пад рукамыйнікам, Сураў паглядваў на вуліцу, дзе ўсё ў той самай нязручнай позе, закінуўшы галаву на сядзенне, спаў шафёр. Гэтай беструботнасці цяпер якраз не хапала Сураву. Прыезд маці яго, вядома, узрадаваў, ён любіў яе, як любяць маці, з ёю было па-хатняму спакойна, утульна. Ён злавіў сябе на тым, што загадзя смакуе згатаваны маці сняданак — гэта табе не варыва застаўскага кухара з салдат-першагодкаў. І пры ўсім гэтым адчуваў нейкую прыкрасць. І няёмкасць адначасова. Няёмкасць перад маці, таму што памылка яго засмуціла. Калі б Вера з Мішкам...

Снедаючы, ён і маці пазбягалі гаварыць пра Веру. Маці падкладвала яму смажанага мяса, бульбы, прыпраўленай часнаком і перцам — па-туркменску. Прыемна было сядзець за сталом, засланым накрухмаленым абрусам. І ён, гэты абрус, і ў тон яму льняныя, таксама накрухмаленыя сурвэткі Сурава зусім не здзівілі: ён памятаў іх з маленства, прывык да іх. І тое, што маці прывезла цяпер гэтыя няхітрыя рэчы, каб хоць неяк скрасіць яму побыт, ён прыняў як належнае, зусім не здзівіўшыся клопату.

Вось калі б такую ўвагу яму аказала Вера! Ён бы, вядома, пахваліў бы яе за смачны сняданак і святочна прыбраны стол.

Такія думкі яго раззлавалі: «Вера, Вера...» Можна падумаць, яна ўвесь свет засціла. З прыкрасцю на сябе адсунуў талерку, устаў, падышоў да маці, пацалаваў яе. Гэта выйшла ў яго не вельмі шчыра — маці не падманеш. Яна лёганька шлёпнула яго па губах сваёй мяккай і цёплай далоняй і чамусьці пацёрла шчаку ў тым месцы, да якога толькі што дакрануўся губамі.

Ён заснуў адразу, як толькі дакрануўся да падушкі, спаў беспрабудна гадзіны тры з лішкам, спаў моцна, як заўсёды, і не чуў, што маці ў другім пакоі нешта совала, перастаўляла, ляпала дзверцамі шафы.

Яго разбудзіў роў быка. Чомбе — так празвалі яго салдаты — роў страшным раскацістым голасам, працягла, з усхліпам, роў да таго часу, пакуль на лузе не адгукнулася Краска.

Больш Сураў заснуць не мог. І зноў — у які раз за гэты дзень — прыйшлі думкі пра Веру. Ён спрабаваў адагнаць іх і не мог. Прасцей за ўсё было ўстаць, памагчы маці па гаспадарцы. Ён нават толкам не пагаварыў з ёю.

Яна сама ўвайшла і пачала сціраць пыл са стала і буфета, наводзіць лад на кніжнай паліцы. Сураў адкрыў вочы і ўбачыў спіну маці, тонкую шыю і ўжо зусім пасівелы пучок валос на патыліцы. Старасць падкрадвалася да яе непрыкметна, але Сураў заўважыў яе раптам, неяк адразу, і яму стала балюча. Ён адчуваў сваю незразумелую віну перад ёю, хаця заўсёды быў добрым і ўважлівым сынам, а яна гэтага не толькі не хавала, як звычайна робяць стрымлівыя маці, каб не «сапсаваць дзіця», а адкрыта, пры ім, прызнавала і ганарылася.

Ён ляжаў ціха, не варушачыся. Маці па-ранейшаму стаяла да яго спіной, і ён назіраў за яе хуткімі рукамі. Вось яна выцерла пыл з кніг на верхняй паліцы, прынялася за другую, дзе стаялі шэсць томікаў Паустоўскага — падарунак Веры да дня нараджэння.

— Ану ўставай, лежабок. Калі не спіш, уставай. Няма чаго качацца.

— Вой, ужо гэтыя ўсёвідушчыя мамы! — жартам паскардзіўся Сураў.

Ён саскочыў на халодную, яшчэ вільготную пасля мыцця фарбаваную падлогу, некалькі разоў прысеў і рэзкім рыўком падняўся, адганяючы рэшткі ленай стомы. Потым пачаў апранацца: нацягнуў штаны, боты. Штаны былі толькі што адпрасаваны, боты наваксаваны. Спачатку ён здзівіўся, таму што ўжо некалькі дзён не прасаваў штаноў, а з ботаў толькі змахваў пыл. Потым зразумеў, што за яго гэта зрабіла маці.

Маці з дакорам паглядзела яму ў твар.

— Думаеш, пашкадавала? Маленькага, кволага, бедненькага.

— Нічога такога не думаю, — буркнуў ён, надзяваючы майку. — І наогул...

— Што наогул? Наогул, — перадражніла яна. — Апускаешся, капітан. Ты што ж сабе думаеш, дарагі мой! На цябе твае салдаты глядзяць. І ўсё падмячаюць.

— Не трэба. — Ён перабіў яе, чаго ніколі сабе не дазваляў. І ад таго, што ў незразумелай запальчывасці дапусціў нетактоўнасць, яму стала няёмка. — Прабач, мама, ты, як заўсёды, маеш рацыю. І давай больш не будзем. Добра?

Яна скупа ўсміхнулася:

— Добра.

Сураў паглядзеў на насценны гадзіннік — таксама пакупка Веры на чацвёртым годзе іх сумеснага жыцця — ён паказваў дзве гадзіны дня. Пара абедаць і ісці на заставу.

Пераклад з рускай.

# СЛАВУТЫ ПАПЯРЭДНІК БАХА

## Да 385-годдзя з дня нараджэння Генрыха ШУТЦА



У гісторыі нямецкай музыкі выключнае месца займае творчасць стваральніка першых нямецкіх опер, балетаў і араторыі Генрыха Шутца, непасрэднага папярэдніка Баха і Гендэля.

Генрых Шутц нарадзіўся 14 кастрычніка 1585 года ў невялікім гарадку Кёстрыцы. Яго бацька Густаў Шутц меў тут тракцір «Залаты журавель». Аднойчы маркграф Морыц Гесен-Касельскі, едучы праз горад, пачуў цудоўны дыскант юнага Шутца, які спяваў у мясцовай царкве. Зачараваны крыштальна чыстым голасам хлопчыка, маркграф забраў яго ў сваю капэлу. У капэле будучы кампазітар атрымаў выдатную музычную і агульную адукацыю. Але, падпарадкоўваючыся волі бацькі, Шутц паступіў у Марбургскі універсітэт, дзе атрымаў вучоную ступень юрыста.

Хутка Гесен-Касельскі прапанаваў Шутцу паездку ў Венецыю. Казачны горад зачараваў уражлівага юнака. Яму чулася музыка і ў плёскаце вод блакітных лагун, і ў велічнай архітэктуры сабора святога Марка... Але самай цудоўнай была музыка славутага маэстра Джавані Габрыэлі. Да яго і з'явіўся юнак.

У доме Габрыэлі Шутц пазнаваў вялікія тайны гармоніі і тэорыі кампазіцыі. Праз два гады ён ужо апублікаваў том пяціголосных матэтаў. Першыя творы кампазітара дазволілі загаварыць пра яго як пра выдатнага музыканта.

Генрых Шутц быў першым з нямецкіх кампазітараў, які засвоіў дасягненні старанямецкай школы. Абагульніўшы работы асобных майстроў Германіі XVI стагоддзя, ён накіраваў развіццё музыкі па шляху зліцця з навейшымі дасягненнямі прагрэсіўнай венецыянскай школы.

З 1617 года Генрых Шутц назаўсёды звязвае свой лёс з Дрэздэнам. У Дрэздэн ён прыехаў па запрашэнні курфюрста Георга-Іягана Першага, разумнага і тонкага цаніцеля прыгожых мастацтваў. Пры Шутцы Дрэздэнская капэла дасягнула найвышэйшага росквіту.

Кампазітар стварае натхнёны цыкл псалмаў на нямецкі тэкст К. Бекера «Псалмы Давіда». Строгая прастата мелодый, дзівосная гарманічнасць і завершанасць формы робяць псалмы падобнымі на творы ранняга Баха.

Саксонскае княства аказалася ўцягнутым у разбуральную Трыццацігадовую вайну (1618—1648). Яна спустошыла сялянскія палі, знішчыла сотні тысяч чалавечых жыццяў. Абяскроўленыя вайной гарады выміралі ад чумы і халеры. У гэтыя гады Шутц многа падарожнічае па Германіі. У сэрцы кампазітара - гуманіста расце нянавісць да вайны як найвышэйшага зла на зямлі. Паміж 1633 і 1636 гадамі Шутц стварае два цыклы «Маленькіх духоўных канцэртаў», якія складаюцца з 55 твораў. У гэтай музыцы — глыбокі роздум кампазітара над лёсам чалавецтва.

Шутц быў аўтарам першых нямецкіх балетаў «Пажаданні шчасця Апалону» (1621) і «Арфей і Эўрыдыка» (1638). Апошні балет быў паказаны ў 1673 годзе ў Маскве.

Духоўныя сімфоніі «Symphonia sacrae» Шутца паклалі пачатак вакальна-інструментальнаму стылю, які быў развіты праз сто гадоў Бахам.

У 80-гадовым узросце ён стварае выдатную араторыю «Калядная гісторыя». Тэмы пратэсту супраць дзікіх зверстваў і здзекаў над асобай простага чалавека, неспакою за лёс будучых пакаленняў гучаць у «Каляднай гісторыі» гнеўна і страсна, бічуючы разбуральную сілу вайны.

З гадамі Шутц не страціў юнацкага запалу. Ён піша тры «Пасіёны» па евангеллях Лукі, Матфея і Іаана — шырока разгорнутыя драматычныя палотны.

За год да смерці 86-гадовы Шутц піша «Нямецкі магніфікат». Апошнім намаганнем волі слабеючы майстар паставіў кропку пад завяршэннем вялізарнай працы ўсяго свайго жыцця.

Як немагчыма ўявіць рускую літаратуру без Ламаносава і Пушкіна беларускую — без Я. Купалы і М. Багдановіча, так нельга ўявіць нямецкую музыку без роданачальніка лепшых яе ўзораў, бацькі нямецкіх музыкантаў Г. Шутца, які вызначыў шлях развіцця нямецкай музыкі ад першых опер, балетаў і араторый да манументальнага мастацтва Баха, Гендэля, Моцарта і Бетховена.

Генрых Шутц быў прыхільнікам збліжэння нацыянальных культур. Ён аказаў вялікі ўплыў на развіццё музыкі ў Даніі, Польшчы, Нідэрландах. Зараз у Еўропе ўзнаўляецца цікавасць да творчасці геніяльнага папярэдніка Баха.

Думаецца, што і ў нашай рэспубліцы, якая вылучыла ў апошні час рад цікавых выканаўцаў, музыканты не застануцца абыякавымі да цудоўнай музыкі Г. Шутца.

**У. ЯФРЭМАЎ.**



**ВОДГУКІ, АДКАЗЫ**

### ПОМНІК РАМУАЛЬДУ ТРАЎГУТУ БУДЗЕ АДНОЎЛЕНЫ

*5 чэрвеня 1970 года ў «Літаратуры і мастацтве» было надрукавана пісьмо Д. Маслава «Помнік трэба аднавіць». У пісьме расказвалася, што ў горадзе Свіслач у занядбалым становішчы знаходзіцца помнік паплечніку і сябру Кастуся Каліноўскага, «сялянскаму генералу» Рамуальду Траўгуту. Д. Маслаў расказаў пра гісторыю ўзнікнення гэтага помніка, пра слаўнае жыццё Рамуальда Траўгута.*

*Як паведаміў нам сакратар Свіслацкага райкома партыі А. Дзямянцей, фігура футбаліста, якая з 1949 года стаяла на пастаменце знішчанага помніка Р. Траўгуту, ужо знята. Гродзенскім мастацка-вытворчым майстэрням Мастацкага фонду БССР заказана мемарыяльная дошка з партрэтам Рамуальда Траўгута.*

*Поўнасцю помнік будзе адноўлены ў лістападзе гэтага года.*

